
Кніжка пра бульбу →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Сёстры Урублеўскія →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3259) Год LXIII Беласток, 28 кастрычніка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# НІВА у Гайнаўскім белмузеі

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**Яўген Вапа, галоўны рэдактар Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» і старшыня Радыё Рацыя 18 кастрычніка сустрэўся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы з гайнаўскімі белліцэістамі і іх настаўнікам беларускай мовы Янам Карчэўскім. Спатканне ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае» наладзіла ў кіназале музейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк. Сказала яна, што запрасіла Яўгена Вапу, каб прыблізіў моладзі дзейнасць беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі, штотыднёвіка «Ніва», Радыё Рацыя і распавёў пра сваю дарогу да беларускасці, якая пачалася на Гайнаўшчыне.**



— Я рады, што ізноў магу выступіць перад белліцэістамі. Меў я гонар быць вучнем і настаўнікам Гайнаўскага белліцэя, дзе вы цяпер вучыцеся. Я правёў дзяцінства і дарастаў у Доўгім Бродзе, які называюць таксама Мацкевічамі. Вучыўся ў Пачатковай школе ў Арэшкаве і 38 гадоў таму назад пачаў вучобу ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, дзе вучыліся таксама мой брат, а раней мая цёця. Мы, хлапчукі і дзяўчаты, так зжыліся ў белліцэйскім класе, што да сіх пор сустракаемся ў сваёй кампаніі і многа аб сабе ведаем, — стаў распавядаць старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа прыбылым на спатканне вучням, большасць якіх складалі ўжо жыхары Гайнаўкі, якія мала ведалі пра сваіх продкаў у далейшых пакаленнях. — Каб дабіцца ў жыцці поспехаў, трэба мець веды. Вельмі важна ведаць наша мінулае, гісторыю, традыцыі, навучыцца размаўляць на роднай беларускай мове і сваім дыялекце, якіх на Гайнаўшчыне ёсць прынамсі пяць і з пашанай ставіцца да сваёй мінуўшчыны. Размаўляць на беларускай мове можна вучыцца таксама слухаючы беларускае радыё і чытаючы беларускія газеты і кніжкі. Зараз падаюць тыражы штодзёнак, але захоўваюцца, а нават павялічваюцца тыражы штотыднёвікаў, якіх чытанне, так як і чытанне кніжак, патрэбнае для рэфлексіі аб жыцці і фарміравання сваіх поглядаў.

Рэдактар Яўген Вапа заахвочваў вучняў да творчага супрацоўніцтва з «Нівай».

— Праца журналіста цікавая і разнародная. Можна пабываць на розных мерапрыемствах, знаёміцца з цікавымі людзьмі і многа цікавага і вартаснага даведацца. Аднак трэба ўмець аддзяляць цікавае і вартаснае ад усялякага інфармацыйнага смецця, якога асабліва многа можна знайсці ў інтэрнэце, каб не зрабіць з нашай галавы сметніка. Можна, напрыклад, апісваць поспехі сяброў, бо па-хрысціянску радавацца поспехам іншых. Журналісцкую працу трэба любіць, а каб гэта спраўдзіць, заахвочваю пісаць артыкулы ў наш тыднёвік. Не ўсе станучь у будучыні журналістамі, але ахвотныя могуць змясціць свае думкі і рэфлексіі ў допісах у «Ніву», якая выходзіць ужо 62 гады. Праца журналіста патрабуе таксама ахвярнасці, калі трэба працаваць у выхадныя і святочныя дні, а часам нават ноччу. Слухаючы Радыё Рацыя можна многаму даведацца аб Беларусі і жыцці беларусаў у Польшчы, — гаварыў госць сустрэчы Яўген Вапа. — Я, будучы белліцэістам, пісаў у "Ніву" і быў вельмі рады, калі друкаваліся мае допісы. Тады ліцэісты пісалі артыкулы, бо любілі гэта рабіць. Каб даведацца аб жыцці ў мінулым, я паступіў на гістарычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Студэнты таксама чыталі «Ніву», пісалі і дасылалі свае артыкулы ў наш штотыднёвік. Яшчэ будучы вучнем сярэдняй школы я марыў стаць настаўнікам Гайнаўскага белліцэя. Мая мара здзейснілася і я ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя ахвотна даязджаў з Бельска, дзе жыў, на працу ў Гайнаўку. У некаторыя дні тыдня прыходзілася падымацца а палове пятай гадзіны раніцы, каб дабрацца на працу ў белліцэй, а вяртаўся дамоў каля дзевятнаццаці вечара.

Рэдактар Яўген Вапа распавёў аб кніжных выданнях «Нівы».

— Наш тыднёвік вядзе таксама выдавецкую дзейнасць і выдаў ужо дзясяткі кніг. Вельмі вялікае значэнне мае выдадзеная намі кніжка пра бежанства. Гэта адзіная кніжка з вялікай колькасцю запісаных успамінаў ад саміх бежанцаў. Ёсць апрацоўкі наконт бежанства, але ніхто па-за нашымі журналістамі і карэспандэнтамі не спісаў так вялікай колькасці ўспамінаў ад відавочцаў бежанства. Выдадзеная нашым тыднёвікам кніга «Бежанства 1915 года» выкарыстоўваецца гісторыкамі і аб ёй гавораць падчас навуковых канферэнцый. Калі першае выданне кніжкі распрадалося, мы надрукавалі, таксама на беларускай мове, папоўненае другое выданне. У наступным годзе плануем выдаць яе па-польску, каб пра міграцыю нашых продкаў маглі даведацца жыхары Польшчы з розных куткоў нашай краіны. Наш тыднёвік выдаў таксама кніжкі аб жыцці беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд, у гады Другой сусветнай вайны і ў пасляваенны перыяд, ажно да 1956 года, калі пачала выходзіць «Ніва». У гэтых кніжках і ў «Ніве» апісана, як ствараўся наш «Беларускі дом». Мы павінны любіць наш "Беларускі дом". Мы тут былі, ёсць і будзем і, маючы гэта на ўвазе, павінны будаваць нашу будучыню. Беларускі музей, у якім мы цяпер знаходзімся, гэта таксама наш «Беларускі дом». Мы, будучы вучнямі Гайнаўскага белліцэя, прыходзілі сюды разгружаць цэглы на будову белмузея, касілі тут траву і, як вучні, рабілі гэта ахвотна. У музейнай бібліятэцы можна пазычыць для прачытання кніжку «Гісторыя беларусаў Падляшша», у якой можна даведацца аб нашай мінуўшчыне. На Гайнаўшчыне арганізуецца таксама літаратурны семінар «Бязмежжа», на якім сустракаюцца беларускія пісьменнікі Рэспублікі Беларусь і Польшчы. У вас ёсць магчымасць прымаць удзел у беларускім культурным і інтэлектуальным жыцці ў нашым белмузеі і ў іншых месцах. Мы павінны будаваць і шанаваць наш нацыянальны «Беларускі дом», — расказваў рэдактар Яўген Вапа, які запрэзентаваў вучням зборнік вершаў дырэктара Бельскага белліцэя Андрэя Сцепанюка, выпускніка гэтага ж ліцэя і настаўніка беларускай мовы, а ў мінулым бургамістра Бельска-Падляшскага, што было асабліва станоўчым прыкладам для белліцэістаў. Пачалі яны гартаць старонкі выдання пра бежанства і кніжкі з вершамі Андрэя Сцепанюка.



— Можаце пазнаёміцца таксама з кніжкай нашай рэдакцыйнай сяброўкі Ганны Кандрацюк аб Палессі, якое вельмі цікава апісана, — гаварыў Яўген Вапа і запрэзентаваў новы нумар «Нівы».

Госць расказаў таксама аб Сустрэчах «Зоркі», якія арганізуе Ганна Кандрацюк. Іх некаторыя ўдзельнікі цяпер працуюць журналістамі ў розных масмедыях, а пачыналі вучыцца журналістыцы менавіта ў час зорчаных сустрэч.

працяг ☞10


9 770546 196017



# Афарызмы палітычныя і не толькі...

Як казаў некалі майстар бытавога афарызму Віктар Чарнамырдзін: „Ніколі такога не было і вось зноў здарылася". Ну ў былога палітычнага дзеяча і высокапастаўленага чыноўніка Савецкага Саюза а пасля і Расійскай Федэрацыі Віктара Сцяпанавіча падобны жанр размовы быў натуральным, і многія лічаць, што абсалютна незразумелым для самога аўтара. Праўда, для чыноўнікаў постсавецкай прасторы гэта не навіна. Гаварылі яны ўсе незразумела і для сябе, і для іншых. Але Віктар Чарнамырдзін і з гэтай шматкольскаснай кагорты выдзяляўся нечаканасцю і трапнасцю сваёй спантаннай творчасці.

Ну гаварыў ён і гаварыў, бо чыноўніку нешта гаварыць трэба. А што так удала атрымлівалася, дык гэта не яго віна. Не трэба зайздросціць. Ну а іншыя карыстальнікі яго творчасці разбіралі тыя выказванні на цытаты, бо атрымлівалася ў Віктара Сцяпанавіча смяшыць людзей у сферах сур'ёзных, сур'ёзней якіх не бывае. Ну чаго вартыя толькі такія яго выказванні: „Народ пажыў і хопіць", ці „Лепш за водку, горш няма", або „Секс — гэта таксама форма руху". Не смяяўся толькі ён сам, бо пра сэнс выказанага не асабліва грузіўся. А атрымалася класіка жанру. Мала які гумарыст можа пахваліцца той колькасцю цытат, якімі заваленая сённяшняя інтэрнет-прастора ад былога старшыні Савета Міністраў РФ.

Толькі аднойчы заўзятары палітычнага гумару знайшлі ў другога расійскага палітыка фразу, якая можа рэальна прэтэндаваць на лідарства. Гэта фраза прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі Дзмітрыя Мядзведзева, калі той сказаў на сустрэчы з прадстаўнікамі свайго народа, што грошай то няма, але вы, маўляў, трымайцеся. Як канкрэтна пратрымацца прэм'ер не стаў губляць часу на тлумачэнні, затое яго фраза натхніла многіх творцаў і ўвайшла ў разнастайныя формы народнай і прафесійнай творчасці, у вершы, песні, прозу, і хіба што некалі будзе намаляваная.

Ну але тое, што свет пачуў ад цяперашняга кіраўніка Расіі, зацьміла ўсе іншыя крылатыя фразы яго палітычных папярэднікаў розных рангаў. Яна бясспрэчна пераўзышла ўсе ранейшыя палітычныя цытаты, выказаныя хоць кім на палітычным алімпе да Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна. А ён то сказаў усяго некалькі слоў. 18 кастрычніка прэзідэнт РФ заявіў, што Расія можа прымяніць ядзерную зброю толькі ў адказ на атаку з боку іншай краіны. І тут дадаў: „Агрэсар мусіць ведаць: адплата непазбежная, усё роўна ён будзе знішчаны. А мы, як ахвяра агрэсіі, мы як пакутнікі, патрапім у рай, а яны проста здохнуць. Таму што яны нават раскаяцца не паспеюць".

Пасля гэтых слоў у зале прагучаў смех, але хіба што тыя, хто смяяўся, успомнілі яшчэ адну трапную фразу, што смяецца той, хто смяецца апошнім. Праўда, гэтае выказванне было зробленае не палітыкам і канкураваць з вышэйпрыведзенымі цытатамі не мае права.

Затое мы нарэшце даведаліся, хто дакладна ведае, якім чынам можна патрапіць у рай, а якім у пекла. Прадстаўнікі РПЦ не сталі гэтым разам аспрэчваць сваё першаснае права на падобныя тлумачэнні і раздаванне рэкамендацый вернікам, як знайсці дарогу ў неба. Яны зараз больш увагі надаюць пытанням звязаным з аўтакефаліяй Украінскай праваслаўнай царквы. І вось там таксама выказаліся даволі знакава. За тое, што ўкраінцам дазваляюць тую аўтакефалію, з колаў РПЦ прагучалі галасы, якія заклікалі прыхаджан пазбягаць паломніцтваў нават на знакамітую гару Афон, якую, дарэчы, неаднаразова наведваў усё той жа Уладзімір Пуцін. І яшчэ заклікалі не фінансаваць там нікога, і нават не прычашчацца на тэрыторыі Канстанцінопальскага Патрыярхату.

Я, як праваслаўны, заўсёды думаў, што на зямлі няма такога месца, дзе нельга маліцца, а пры наяўнасці адпаведнай структуры і прычасціцца. Але ж хто я такі, каб мець свае меркаванні. Проста праваслаўны хлопец, як і мноства такіх як я праваслаўных і ў РПЦ, і на тэрыторыі Канстанцінопальскага Патрыярхату, і зараз ужо ва Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. Таму наўрад ці нам, простым, пад сілу спасцігнуць тыя звышвысновы. Лепш перайсці да выказванняў больш мірскіх. І тут я першынство аддаў бы начальніку Расійскай Федэрацыі. Хоць можа мы, звычайныя выбарцы, і там не зусім дасведчаныя.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Голас на Міруню!

Не вагаючыся, я б аддаў свой голас на Міруню Л... Калі б была кандыдаткай у самаўрадавых выбарах! У Сейм або Сенат таксама. І не толькі таму, што адорваю яе дружбай і павагай. Прытым гэта падляшучка з плоці і крыві, а яе незвычайная фантазія спраўна ідзе з прыроджанай развагай і розумам. Я прагаласаваў бы за яе ў першую чаргу таму, што яна прыстойны чалавек. Тым не менш, мы павінны прызнаць, што ў эпоху постмадэрну, калі такія паняцці, як ісціна, закон, дабрыня ці справядлівасць цалкам семантычна заблытаныя, чалавечая прыстойнасць па меншай меры спрэчная. Я настойваю на тым, каб яе зразумець у традыцыйны спосаб. Для мяне «Так» мае значыць так, а «Не» — проста не. А калі глядзіш, то бачыш, а калі слухаеш, то чуеш. Але хутчэй яна бэльку з уласнага вока выкалупае, чым папракне ў абы-якой сцябліне ў воку бліжняга свайго. О, такая Міруня. Толькі што ў яе ёсць істотны недахоп. Міруня — паэтка! Дадам, што знакамітая. Але... як яе паэзія маецца да выбараў? Маецца! Усё залежыць ад таго, якім інспіруемся панятцем дзяржавы — ідэалістычным, антычна-платанічным, ці сучасным, індывідуалістычным па духу Дэкарта. Калі першым, дык не дай Бог галасаваць на паэтаў. Калі другім, то няма значэння, хто чым займаецца.

Платон, не грашыўшы любоўю да афінскай дэмакратыі, у якой вырастаў, з паэтамі не лічыўся. Ці больш прама: лічыў іх дзяржаўнымі шкоднікамі. У ідэальнай дзяржаве, пра якую марыў, усе аспекты жыцця павінны быць падпарадкаваныя грамадзе, якую прадстаўляюць уладары-філосафы. Толькі яны, паводле яго слоў, пры ўмове, што адракуцца ад сямейнага жыцця, аддаўшы ўсе духоўныя сілы для агульнага дабра, пастаянна практыкуючы здольнасць выкарыстоўваць розум, будуць у стане падтрымліваць непахісны парадак ідэальнай дзяржавы; чытай: шчаслівай для грамады. Вядома, яна шчаслівая настолькі, наколькі ўсе члены грамады будуць выконваць законы грамадства, у якім кожнаму будзе адведзена месца па інтэлектуальных здольнасцях і ўмелацях. Платанічная дзяржава была б чалавечым агрэгатам, з найвышэйшай галавой, якая кіруе справядліва цэласцю ў адпаведнасці з усталяванымі правамі, мускулістымі плячыма — як спраўная армія, спрытнымі далонямі і крэпкімі нагамі на падабенства рамеснікаў і сялян, выраблюючых карыснае для агульнага дабра. Пра рабоў, якіх нашмат больш чым свабодных грамадзян Афін, Платон прамаўчаў. Для яго яны былі толькі «прыладамі дзеяння». Такім чынам, асновай для кіравання платонаўскай дзяржавай будзе прынцып «кожнаму грамадзяніну па яго заслугах і патрэбах, усё ж, пад пільным кантролем галавы». (Ці гэта камусьці чагосьці не нагадвае?). Затым без яе ведама і волі кожны занятак, які прыносіў бы шкоду дзяржаўным інтарэсам, не можа быць выкананы. Напрыклад, паэзія, на думку нашага філосафа, толькі рассявае грамадзянскія хваляванні, таму што займаюцца ёю бездаказныя і непрадказальныя людзі. Адзінкі! — тут варта падкрэсліць, што Платон трактаваў чалавечую індывідуальнасць, асобу, крыху непрыязна. Для яго лічылася цэласць, супольнасць. Па-за ёй існавалі, праўда, але гэта была іх звышнатуральная воля, а людзі, якія адпрэчвалі яе правы, станавіліся ідыётэс — тымі, якія, здаецца, больш жывёлы, чым думаючыя істоты. Такім чынам, гаворачы па-платонску, таварышы, паэты, як дэгенераваныя індывідуалісты і прыродныя кантэстатары, якія не кіруюцца розумам, а боскім шалам, таму маючыя абсурдныя ідэі, дрэнна ўплываючыя на працэс дысцыплінавання людзей, такія ідыётэс. І людзі, і жывёлы. Таму неабходна выціснуць іх з дзяржавы. Эх, Міруня, Міруня...

Сучасныя часы стварылі другую канцэпцыю дзяржавы, супрацьлеглую ідэалістычнай утопіі Платона, і пазнейшай, раннехрысціянскай, ідэі святога Аўгусціна аб боскім, непарушным здзяйсненні існуючага грамадскага парадку. У гэтай канцэпцыі над увасабляючай грамадой, больш ці менш іерархічнай, выбіваецца моцным голасам чалавечая суб'ектыўнасць і, такім чынам, аўтаномія адзінкі перад дзяржавай. Па-філасофску выказаў гэта Дэкарт: Cogito ergo sum. Я думаю, таму існую. Таму што веды, кожнае пазнанне часам бывае ненадзейным, узнікае цэлы шэраг праблем. Сумненне з'яўляецца актам мыслення і з факту мыслення вынікае існаванне думаючага суб'екта, незалежна ад класавай прыналежнасці або прафесіі. Чалавек мае неад'емнае права на свабоду думкі і слова. Эх, Міруня, прагаласавалі бы мы за цябе!

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (3)

Чарговы фельетон з выбарчага цыкла пісаць даволі нязручна, бо калі, шаноўныя Чытачы, трымаеце наш тыднёвік у руках, вядомы ўжо афіцыйныя вынікі самаўрадавых выбараў першага тура. Аднак калі «Ніва» здавалася ў друкарню, а быў гэта панядзелак, мы не мелі поўных ведаў пра перамогу тэрытарыяльных змаганняў. Таму хацелася мне каб з аднаго боку падаць вынікі новых абраннікаў, але з другога боку вядома, што адзін голас у такіх выбарах не адзін раз мяняў і дэпутатаў, і выйграныя групоўкі. Таму чаканне афіцыйных рэзультатаў вынікае з вопыту папярэдніх гадоў, калі, асабліва ў гарадскіх камісіях, пералік галасоў і падзел на мандатныя месцы мяняецца часта з гадзіны на гадзіну і трывае да апошняй хвіліны. Аднак пакуль да аналізу афіцыйных вынікаў прапаную яшчэ некалькі назіранняў з выбарчых гонак.

Справай, якая цалкам неправяральная і дае няроўныя шанцы кандыдатам, а таксама з'яўляецца злоўжываннем займаных пасадамі — гэта вядзенне агітацыйна-выбарнай кампаніі ў працоўны час. Чаму выбарчыя мітынгі ці прэс-канферэнцыі з удзелам дзейсных самаўрадаўцаў ці падначаленых ім працаўнікоў вядуцца ў іхнім рабочым рытме дня? Дзеля роўных шанцаў павінны яны ўсе ўзяць бясплатныя водпускі, каб поўнасцю прысвяціць сябе выбарам, а не весці кампанію за грошы падаткаплацельшчыкаў тады, калі павінны яны быць на сваіх працоўных месцах. Што тады з ім падпарадкаванай у рабочым плане канкурэнцыяй? Прыватныя працадаўцы таксама не адпускаюць сваіх падначаленых займацца палітыкай у межах працоўнага дня. Калі ласка, у вольны ад працы час, або ў загадзя запланаваным адпачынку. Часта даходзіць да кур'ёзных сітуацый кшталту, што некаторыя важныя дырэктары так занятыя палітычнай барацьбой, што абсалютна не валодаюць сітуацыяй на якую сустрэчу трапляюць. Дасведчыў гэтага і ніжэйпадпісаны, калі, будучы ўдзельнікам размовы з гайнаўскімі ліцэістамі, у перадвыбарны чацвер у Беларускім музеі стаў выпадковым сведкам мітусні пасля саміту важнай партыі, дапытваючай мяне, а што я тут раблю, калі іхнія ігрышчы ў самым разгары. І ці выпадкова не прыехаў я сюды, каб пашкодзіць у палітычным, рытуальным шаленстве мясцовай прадукцыі. Сваёй дарогай, толькі потым стукнула мне ў галаву запытацца, а калі самыя важныя палітыкі Польшчы і Падляшскага ваяводства ў мінулым і зараз замест прыгожых пустых слоў знойдуць грошы на рамонт скарыстаных імі залаў у Беларускім музеі і ўчыняць музей дзяржаўнай установай, фінансаванай з бюджэтных сродкаў дзяржавы ці ваяводскага самаўрада. Пра горад не згадваю, бо там думкі пра будучыню няма, хіба, што толькі пра сваю асабістую выгаду — то і «оўшэм». Адным словам, выцірань беларусамі можна сабе не толькі твар, але і сваімі нагамі наносіць пясок ці гразь у нутро будынка, які ж трэба ахвярным працаўнікам гэтай установы ўтрымліваць у належным парадку. Але ў выбарчым шаленстве ніхто не звяртае ўвагі на патрэбы асоб ці ўстаноў, якія можна скарыстаць для бягучых мэт.

Будучы ў Гайнаўцы, даведаўся я пра, на маю думку, адну з найбольшых выбарчых кілбас у нашым рэгіёне. Даслоўна на пяць дзён да выбараў самаўрад горада з бургамістрам на чале ўвялі бясплатную, гарадскую камунікацыю. У горадзе раварыстаў такое рашэнне ашарашыла яго жыхароў. Кожны хацеў пакарыстацца ласкай дабрадзея — пана бургамістра і дарма пакатацца па горадзе. Ці гэтае рашэнне на векі і амін — пакажа час. Скептыкі і мясцовыя крытыканы кожнай улады даказваюць, што вясной усё вернецца да нормы і за праезд трэба будзе ізноў плаціць. Але калі б не выбарчая канкурэнцыя на карку, то анікага такога жэсту з боку ўлад не пабачылі б. Найвышэй як заўсёды — дулю, — іранізуюць некаторыя. Тым не менш у Гайнаўцы сенсацыя — не абяцанне, а рэальнае перадвыбарнае задзейнічанне. Таму нічога дзіўнага, што некаторыя нават просяць у малітвах, каб самаўрадавыя выбары адбываліся часцей, тады можа ўлада больш зробіць у карысць людзям. Усявышні можа і выслухаў, але палітыкі схамянуліся. Цяжка ім справіцца ў чатырохгадовы тэрмін, таму з гэтых выбараў выбіраем іх ажно на пяць гадоў. Ёсць час, каб падумаць над чарговымі абяцаннямі.

**Яўген ВАПА**

# Іаанна
## ад смачнай бульбы

На прэм'еры кнігі Іаанны Якубюк «Ziemniak — wszystko czego nie wiecie o ziemniakach i 60 genialnych przepisów» у смачным клубе — Кулінарнай студыі «Атуты» ў Беластоку па вуліцы Пятркоўскай, 2А, на сталах стаялі ласункі. Салодкія пончыкі, торцікі... Гэта з бульбы? Не можа быць! «Частуйцеся да сустрэчы», — заахвочвала аўтарка, родам з Бельска, педагог па прафесіі вядомая на ўсю Еўропу кухарка. На беларускія сустрэчы прыносіць яна цёплыя духмяныя варэнікі. Вось па «пярожках» вядомая Іаанна ва ўсёй краіне. А сабрала кнігу, ад якой не адарвацца чытаючы, і адразу хочацца бегчы ў сваю кухню і брацца за бульбу.

— З'еж катлетку, пакінь бульбачку, — чуецца ў многіх дамах. А павінна быць наадварот! — казала Іаанна, майстар-шэфка многіх кухняў. — Я бульбу патрактавала па-каралеўску, як і ёй належыцца.

Іаанна на сустрэчы ў «Атутах» не шкадавала пагодлівых, як і яна сама, аповедаў з жыцця Бельска і падбельскіх вёсак, адкуль яе бабулі і цёці, і добрых парад. Як пазнаць па бульбе, што яе можна зварыць сопкай, рассыпаючайся, або на таўканічку, што расплываецца ў роце, або на галушкі, цэпэліны, картачы, ці ў гароднінны салат аліў'е, каб, дадаўшы яе да другіх складнікаў, не выглядала бульба так, быццам яе ўжо тры разы пераражавала рота салдат? Трэба разрэзаць бульбіну, пацерці яе — калі пусціць яна густы сок, выступіць пенка — гэтая бульба не надаецца на салатку; адпаведная на яе бульба пусціць празрысты сок.

— Трэба адкінуць міфы пра бульбу. Ляжыць яна ў склепе, ставімся да яе дрэнна, ігнаруем. Я хачу, каб бульба вярнулася на кухню, але на адпаведнае, належнае ёй становішча.

Нават у кнізе, выдадзенай выдавецтвам «Edipresse», бульбяныя стравы на фатаграфіі раскладзены на прыгожых талерках з пазалочанымі краямі. І ў агульнай складанасці толькі тут вытанчаная стылізацыя, у рэшце кнігі маем чыстую прастату. У рэцэптах і расказах пра хатнюю кухню Якубюкоў, і пра саму Іаасю — як праводзіла канікулы ў бабуль, як рвала крапіву для гусянят і качанят, што рвала і ела адразу з куста ці галіны. Тыя 60 рэцэптаў — пачутых, праверaных, і выдуманых пад уласны смак, узятых з роднага дому, гэта не толькі дранікі, бабкі, варэнікі, але і тыя салодкія смачноты, па якіх і не падумаеш, што яны маюць дачыненне да прадаўгаватай бульбіны ў шэрай (ружовай, чырвонай, крэмавай, жоўтай) скурцы і з бялявым, жаўтаватым змесцівам.




Скажыце, ці хто-небудзь зрабіў з бульбы пірог? Торт? Печыва? Абаранкі? Бісквіты? «Пара, каб змяніць стаўленне да бульбы!» І самае галоўнае: не перакамбінаваць. Дэвіз Іаанны: няма неабходнасці спалучаць многія прадукты для дасягнення жаданага эфекту. І гэта першая думка, і здзіўленне пасля разгляду рэцэптаў: гэта як жа ўсё проста! Ад многіх кулінарных кніг адпуджвае колькасць патрэбных інгрэдыентаў, прытым якія не так лёгка атрымаць у першай лепшай краме. А для рэцэптаў Іаанны часта хопіць проста адчыніць кухонную шафку, таму што большасць таго, што нам трэба, маем пад рукой, і можам выклікаць з фантазіяй цудоўныя смакі. Часам дастаткова кіло бульбы, бульбяная мука і соль. Прытым Іаанна ўмела ўваходзіць у гульню з нашай кулінарнай фантазіяй і падказвае, каб і мы выклікалі ў сабе ўмеласць чаравання. Суп бабулі Зосі. Пірагі бабулі Лёні. Сняданак з патэльні моцы. Картачы, варэнікі, локшына, капыткі, клюсачкі. І ў нас таксама адкрываецца памяць пакаленняў! Той смак дзяцінства, водар кухні бабулі, успаміны, адкрываючыя прастору мінулага. Усе мы маем той забыты код водараў і смакаў, але трэба яго прыгадаць. Нават такія смакі, як суп бабулі Зосі. Дзіўны? Літр малака, фасоля, бульба і маркоўка? Да таго яшчэ зацірка? За такім супам Іаанна сумуе з дзяцінства. Прытым трэба адкінуць стэрэатыпы і адкрыцца на новае. Звары і пакаштуй. Я гарантую — палюбіш смак гэтага супу. І будзеш сыты і рады! Будзеш сумаваць за гэтым смакам увесь год. Так як і я. Гэта сезонны суп. Фасолька проста з куста. Свежая бульба, морква. І смакуе найбольш у адпаведную пару года.

Аўтарка дзеліцца рэцэптамі са сваёй хаты, але і ператтварае іх па-свойму, пераасэнсоўвае нанова і стварае новыя якасці. Смачнае аж да непрытомнасці! — гаманяць госці. А такое простае! Калі чытаеш яе фельетоны ў кнізе, здаецца, што так, як і на сустрэчы, гамоніць з гасцямі, заўсёды моцна занятая, рухавая, з рукамі абсыпанымі мукой, заклапочаная ў сваёй стыхіі. Тлумачыць, якія віды бульбы выбраць, зараз жа — успамін з летняга агарода бабулі ці цёці, а зараз пра майстэрства бабулі, у якой нічога дома не марнавалася. Актыўная, але з одумам і лагодай, спелая і маладая, цікаўная да смаку і смаку жыцця. «Кулінарная актывістка!» Заклікае:

— Еж сезоннае і тутэйшае; купляй у суседа; сябруй з гаспадаром; падтрымлівай дробных вытворцаў; дзяліся трапезай; не марнуй. Еж у кампаніі! Вары, каштуй, паўтары бабуліны рэцэпты і выдумляй сваё, і эксперыментуй, ствaрай свае смакі. Знайдзі смак роднага Падляшша...




Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

## Вада і сцёкі ў Арлянскай гміне

У Орлі ў палове 1970-х гадоў быў пабудаваны водаправод. Ваду, пры вуліцы Пасвятнай, набіраецца з двух знаходзячыхся побач сябе глыбінных калодзежаў глыбінёю ў 120 і 80 метраў. 12 метраў пад паверхняй зямлі стаяць помпы прадукцыйнасцю 80 і 40 кубаметраў у гадзіну, якія падаюць ваду ў будынак водазабору. Там яна фільтруецца, ачышчаецца ад лішку жалеза. Кожны фільтр складаецца з чатырох слаёў жвіру рознай грануляцыі — ад найменшай да найбольшай. Далей вада падаецца ў ураўняльныя рэзервуары, укапаныя побач калодзежаў. Аўтаматычныя сэнсары ўключаюць і выключаюць помпы. З гэтых рэзервуараў гарызантальныя помпы падаюць ваду ў гідрафоры, адкуль яна пад ціскам чатырох атмасфер паступае ў водаправод.

Водазабор у Орлі забяспечвае Орлю і суседнія вёскі: Міклашы, Рудуты, Кашалі, Вульку ды з 2000-х гадоў Крывятычы, Шчыты-Дзенцялова, Шчыты-Навадворы і вёску Мора ў Чыжоўскай гміне.

Водазабор у Алекшах, на ўчастку фірмы „Нафтан”, падае ваду ў Алекшы, Дыдулі, Градалі, Кошкі, Тапчыкалы, Пашкоўшчыну, Шарні, Спічкі, Малінікі, Москаўцы, Чахі-Забалотныя, Рыгораўцы, Паўлінова, Вульку-Выганоўскую, Круглае ды вёскі ў Боцькаўскай гміне: Краснае Сяло, Шашылы, Нурэц, Дубна, Сасіны, Снежкі, Пасека, Дзяціннае, Быстры, Малочкі і ў вёскі Бельскай гміны: Дубяжын, Мокрае, Кнарыды, Падбелле, Казлы, Райкі і Леўкі. Водазабор пастаўляе найлепшую мяккую ваду.

Рашэннем гміннай рады ад 31 жніўня 2017 года назначана аплаты за пастаўку вады і адвод сцёкаў:

— за адзін кубаметр вады — 1,90 зл. нета плюс ПДВ;

— месячная стаўка абанентнай аплаты — 2,20 зл нета плюс ПДВ;

— за кубаметр адстаўленых сцёкаў — 4,20 зл. нета плюс ПДВ.

Паводле новага заканадаўства дырэктар Рэгіянальнай управы воднай гаспадаркі ў Беластоку Дзяржаўнага воднага гаспадарства „Польскія воды” рашэннем ад 20 красавіка г.г. зацвердзіў тарыф для сумеснай пастаўкі вады і такога ж адстаўляння сцёкаў на тэрыторыі Арлянскай гміны на перыяд трох гадоў.

Спажыванне вады ў 2017 годзе з водазабору Орля склала звыш 90 тысяч кубаметраў (у першым паўгоддзі бягучага года звыш 51 тысячы кубаметраў), а з Алекшаў звыш 174 тысяч кубаметраў (амаль 91 тысячу кубаметраў у сёлетнім першым паўгоддзі), у тым ліку ў Боцькаўскую гміну было пастаўлена звыш 57 тысяч кубаметраў, у Бельскую гміну амаль 31 тысячу кубаметраў, а ў Чыжоўскую звыш шасці тысяч кубаметраў. Водаправодная сетка на тэрыторыі Арлянскай гміны, даўжынёй звыш 42 кіламетраў, падае ваду 1579 індывідуальным карыстальнікам.

### Санітарная каналізацыя

У 2017 годзе з ачышчальні ў Орлі адстаўлена амаль 16 тысяч кубаметраў сцёкаў, а ў Дыдулях амаль 1,2 тысячы кубаметраў. Агульная даўжыня санітарнай каналізацыі ў Орлі мае звыш 10 кіламетраў, да якой падключаны 323 хатнія карыстальнікі. У дыдулёўскую ачышчальню трапляюць галоўным чынам сцёкі з былых пэгеэраўскіх блокаў.

4 ліпеня г.г. завяршылася разбудова біялагічнай ачышчальні сцёкаў у Орлі; каштавала яна амаль два з паловай мільёна злотаў. Гэта адна з найбольш мадэрных аўтаматычных ачышчальняў у Падляшскім ваяводстве.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Падбіраем розны рэпертуар

**Размова з Андрэем КУНЦЭВІЧАМ, дырыжорам хору „Светач” з Мінска, які сёлета ўдзельнічаў у XXXVII Фестывалі царкоўнай музыкі ў Беластоку.**

**— Вы ўпершыню ўдзельнічаеце ў Фестывалі?**

— Не, я раней быў спеваком хору, а вось кіраўніком упершыню на гэтым фестывалі.

**— Як Вы адчуваеце сябе ў ролі кіраўніка?**

— Даволі добра. Не так складана ўдзельнічаць у тым фестывалі, які ўжо вядомы. А ведаю добра, бо я ўжо ўдзельнічаў у фестывалі тады, калі ён набіраў разгон.

**— А Вы хваляваліся за сваіх харыстаў?**

— Я і дагэтуль хвалююся; пакуль няма вынікаў, то я перажываю за іх. У прынцыпе я гавару, што яны найлепшыя; гэта любіцелі, іх нельга не хваліць. А калі кранаць такое, вось, творчае хваляванне — гэта ж інструмент, а за інструмент трэба хвалявацца заўсёды, таму што невялікая недапрацоўка мая ці іх — гэта агульная недапрацоўка. І атрымліваецца або добра, або дрэнна.

**— Ваша выступленне прайшло ідэальна?**

— Слова ідэальна многаабяцаючае. Ну, трэба ставіцца крытычна, але і трэба старацца прасоўваць сваю справу.



**— Хто ў вас спявае, каго Вы набіраеце і як набіраеце?**

— Абсалютна па жаданні. Людзі прыходзяць; нехта прыводзіць знаёмых, нехта недзе чуў пра нас, то з канцэрта прыходзяць. Бываюць нават такія, якія не ўмеюць зусім спяваць, а мы прымаем у хор і працуем з імі і калі ім хапае цярплівасці, яны застаюцца з намі. А бывае і так, што маем свабоднае месца для паездкі. Мы, для прыкладу, запрасілі дзяўчыну, яна з намі паехала і заявіла, што яна без нас нікуды — яна ўжо з намі другі год. Важнае, каб у чалавека была зацікаўленасць.

**— Скажыце, калі ласка, ваш рэпертуар складае царкоўная музыка?**

— Не толькі. Мы прабуем, у сілу таго, наколькі людзі могуць быць свабоднымі ад сваіх заняткаў, мы можам удзельнічаць у розных канцэртах і мець на ўвазе розны рэпертуар. Мы падбіраем розны рэпертуар, ёсць у нас і „разрыўковы” рэпертуар, шмат народных песень, таму што мы заўсёды любім народныя песні; не толькі свае, але і ўсіх суседніх народаў. Вельмі любім спяваць на замежных мовах, таму што заўсёды цікава, наколькі будзеш зразумелы. Вось зараз паяўляецца новая афішка — грузінскія песнапенні — паціхеньку мы да іх прымяркоўваемся — прабуем іх нейкім чынам раскрыць для сябе. Бо разнароднасць гэта стымул, рухавік дзеля таго, каб у хоры было цікава.

**— Вы гастралюеце...**

— Мы ставім сабе за мэту па крайняй меры хаця раз у год некуды выехаць. Была Германія, а далей пакуль у нас яшчэ не атрымлівалася. Бо ўсё гэта звязана з фінансамі, і з людзьмі. У хоры акцёры, лекары, эканамісты, будаўнікі — плітачнік, маляр, ёсць журналіст, аўтамеханік, яшчэ хто. Ёсць і людзі, якія займаюцца музыкай. Ёсць скрыпачка, ёсць баяніст, ёсць гітарыст. Гэта людзі, якія хочуць спяваць, а іх ніколі гэтаму не вучылі. Яны прыносяць сюды такую падтрымку і дапамогу, бо яны ведаюць музыкальную грамату — яны могуць нават абучаць харыстаў. Дарослых людзей лягчэй вучыць чым дзяцей, калі яны гэтага хочуць.

**— Вялікае Вам дзякуй. Усяго Вам добрага.**

Размаўляў і фатаграфаваў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Хочуць нас выселіць

Размова з **Аннай МАЦКЕВІЧ**, былой касіркай на чыгуначным прыпынку Арлянка, жыхаркай тамашняга чыгуначнага будынка.



**Анна Мацкевіч: «Калі будынак мае пуставаць, то чаму не магу ў ім жыць?»**

— Я стала тут працаваць касіркай у лютым 1982 года, а 6 студзеня 1983 года перабралася сюды жыць з мужам Гжэсем. Тут нарадзіліся нашы сын і дачка. І тут цягам трынаццаці гадоў прадавала білеты, пакуль не спынілі руху цягнікоў, бадай у 1996 годзе.

Тры ці чатыры гады таму напісала я чыгуначным уладам у Варшаве, куды аплачваю кватэрную плату, каб перакрылі дах, бо ўстарэў і працякаў. Год таму прыехаў сюды спецыяліст, пахадзіў, памераў і сказаў, што трэба 40 тысяч, каб перакрыць дах. А вясною прыехаў іншы спецыяліст, які заявіў, што трэба 20 тысяч на перакрыццё. Гаварыла ім, каб прадалі нам, то самі перакрыем, але яны гэтага будынка прадаць нам не хочуць; гэты ўчастак мае недзе каля 33 на 35 метраў. Цяпер аказваецца, што гэты будынак з'яўляецца гістарычным помнікам. На цэгле выкаваны 1915 год, таўшчыня сцен каля аднаго метра, а тая часць, дзе была пачакальня, была прыбудоўкай і тая прыбудоўка цяпер развальваецца — аддзяляецца ад будынка; і яе хочуць раскідаць. Няхай зносяць. Але сам будынак? Замкнуць і будзе стаяць пусты, а нас хочуць выселіць. Калі мае стаяць пусты, то чаму нам нельга ў ім жыць?

Такое вуснае рашэнне з Варшавы. Прапануюць нам кватэру ў Гайнаўцы, у двухпавярховым блоку. Ездзілі мы яе аглядаць, а там цвіль на сценах і столі. Няма там ваннай. Гэта чыгуначная кватэра каля станцыі, каля віядука.

Калі яны зробяць там задавальняючы нас рамонт, то можа згодзімся выбрацца адсюль. Муж тут працу мае недалёка, у Шчытах, яму шэсць гадоў да пенсіі. Калі гістарычны помнік мае стаяць пусты, то няхай дазволяць мне тут жыць і таксама тут памерці.

— То не цешыцеся, што сюдою паедуць цягнікі? — пытаю разжаленую жанчыну.

— Цешуся з чыгункі, але няхай мяне не чапаюць. Тут файнае месца, побач лес, я зёлкі збіраю, сушу...

Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Закапанэ маімі вачамі (ч.2)

**10 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА — ГУБАЛУЎКА**

У 9 гадзін раніцы з прыпынку ў Цырхлі сядаем у аўтобус і пытаем шафёра, ці завязе нас на Губалуўку. «Як не памру, дык завязу!» — са злосцю кідае стары, сівы барадач. «Co za gbur!» — голасна кажа суседка-пасажырка. Везучы нас, уголас праклінае пробкі і свой шафёрскі лёс, быццам сваю працу выконваў за кару. «Высядаць!» — крычыць да нас у цэнтры Закапанэ.

З цэнтра па плане праз 15 хвілін маем аўтобус да Губалуўкі, а ў сапраўднасці прыязджае праз паўгадзіны. Тым разам сімпатычны старэйшы шафёр гаворыць: «Выбачайце, спадарства, але на Губалуўцы будзеце не раней як праз гадзіну». На двары сонца і вялікая жара, а ў аўтобусе няма чым дыхаць. Заязджаем на Губалуўку, а там таксама адзін вялізны базар. Малыя конікі возяць дзяцей. Многа турыстаў стаіць у чарзе, каб паездзіць чыгункай па Губалуўцы. Калі глядзець уніз, бачны цудоўныя краявіды гор, толькі кружыцца ў галаве. Гэта ж вялізная вышыня. Надвор'е цудоўнае, так як і ў папярэднія дні сонца моцна прыпякае. Пасля паўтары гадзіны з'язджаем уніз, дык ідзем у карчму на абед. Заказваем рэгіянальныя стравы — квасьніцу і свежую фарэль з бульбай. Да таго па адным піве. Каля нас сядзіць пара старэйшых сімпатычных людзей са Свінауйсця. Паміж намі завязваецца цікавая размова і яны не ведаюць, дзе той Беласток! Мы ім тлумачым, што гэта сталіца Падляшша, а яны да гэтай пары думалі, што сядзібай нашага роднага ваяводства з'яўляюцца Сувалкі!

Ах, што гэтыя карты з прагнозам надвор'я па першай праграме польскага тэлебачання робяць з людзей. Афіцыянтка прынесла нам стравы. Квасьніца аказалася вельмі кіслым супам з квашанай капусты а фарэль — сакавітая. Размаўляем з людзьмі са Свінауйсця. Аказваецца, што яны да Закапанэ ехалі 16 гадзін поездам. Расказваюць, што кожны год прыязджаюць сюды, бо любяць пахадзіць па горах. Мы расказваем ім, як у першы дзень выбраліся на гару Яшчуруўка і вельмі стаміліся, а яны кажуць, што гэта самая нізкая тут горка. Прыемна размаўляць з людзьмі, але трэба збірацца. Падаемся на базар пры Губалуўцы. Пры адным страгане мы проста будзім прадаўшчыцу. Маладая дзяўчына тлумачыць нам, што нядаўна стала мамай і дзіця не дае паспаць ноччу, таму яна дрэмле на працы. Купляем некалькі рэчаў у яе і збіраемся дамоў. Вяртаючыся з Губалуўкі ў Закапанэ па дарозе бачым прыгожы драўляны дом вядомага польскага горнага скакуна Каміля Стоха. Мінаем вёскі гураляў, дзе многа агратурыстычных кватэр. У той час таксама гуралі, занятыя сенакосам, а палёў са збожжам дзесьці не відаць. Па дарозе мінаем вялікі камень з партрэтам папы Яна Паўла II з надпісам «Witaj największy gazdo świata. Stąd masz najbliższej do nieba». Дарэчы, у Закапанэ і ваколіцах вельмі многа каталіцкіх касцёлаў, а праваслаўнай царквы ні адной. З Закапанэ вяртаемся ў вёску Цырхля на кватэру. Вечарам надвор'е псуецца. Неба хмурыцца, а ноччу вее моцны вецер.

**11 ЖНІЎНЯ, СУБОТА**

У суботу з самага рання мы збіраліся паехаць на славутае возера Морскае Ока. На жаль, надвор'е папсавала нашы планы. З самой раніцы ліў моцны дождж, а над горамі быццам пар узносіўся вялікі туман. Ядзім сняданак, высылаем ММСы да сям'і і знаёмых, аж мая жонка ўзлавалася: «І так цэлы дзень маем сядзець?! Дождж дажджом, але ж мы не з цукру, не размокнем!» Пасля 13-й гадзіны бярэм плашчы і з вёскі Цырхля збіраемся ў Закапанэ на абед у карчму «U Nosala». Там заказваем абед і зусім не спяшаемся. Хаця абеду чакалі доўга дык сапраўды варта было чакаць. У карчме сядзім амаль дзве гадзіны. Калі выходзім з карчмы ў плашчах, смяюцца з нас арабы, што засталіся ў карчме. А мы з іх смяемся, што мы пілі піва, елі мяса, а іх найбольшым «шаленствам» можа быць толькі марожанае або нешта салодкае.





По дарозе дождж перастаў падаць, а мы пастанавілі наведаць трамплін «Велька крокев», з якой скачуць славутыя польскія скакуны. Аказваецца, што тэлебачанне хлусіць, бо ў тэлебачанні трамплін здаецца вельмі вялікім, а на ўласныя вочы пабачыў, што ён не аж такі высокі. Вакол трампліна «Велька крокев» таксама вялізны базар і ўсё таксама дарагое, як на Крупуўках. Вяртаючыся, мінаем вельмі сучасную будоўлю — гэта навучальны цэнтр нашых польскіх лыжных скакуноў слаўных сваімі дасягненнямі на ўвесь свет.

**12 ЖНІЎНЯ — ВЯРТАННЕ**

У нядзелю, 12 жніўня, пасля сняданку, па 8-й раніцы выязджаем на аўтамашыне з Закапанэ дамоў у Беласток. Надвор'е цудоўнае, сонечнае, але не надта гарачае, ніякіх пробак на «закапянцы»! Па дарозе мінаем шмат каталіцкіх касцёлаў, пры якіх шчыльна стаяць аўтамашыны турыстаў. З самога Закапанэ да Кракава без пробак пераадольваем «закапянку» ў 40 хвілін. Пасля Кракаў, Лодзь. Нават у Варшаве няма пробак. Надвор'е ідэальнае для падарожжа. Свеціць сонейка, тэмпература 22 градусы са знакам плюс. З нецярпеннем едзем дахаты. Каля Замбрава бачым характэрны надпіс-графіці «Legia kurwa», значыць, мы ўжо амаль у хаце, на родным Падляшшы. Усюды добра, але на нашым родным Падляшшы найлепш!

Тэкст і фота
**Юркі БУЙНЮКА**

**LIST OTWARTY**

**Kuzawa, dn. 18 października 2018 r.**

**Pan**
**Michał Wróblewski**
**Wójt Gminy Czeremcha**

Dotyczy udzielenia informacji publicznej nt. „Zakup samochodu 9-osobowego do przewozu uczniów niepełnosprawnych z domu do szkoły i ze szkoły do domu" w ramach programu „Wyrównywania różnic między regionami w obszarze D — likwidacja barier transportowych ze środków PFRON".

W nawiązaniu do odpowiedzi na pismo z dnia 2 października 2018 roku Nr. Or.152.3.2018 dotyczącej zamieszczenia w tygodniku „Niwa" nieprawdziwych danych pragnę oświadczyć, co następuje. Z przykrością przyznaję, iż dopuściłem się pomyłki w stwierdzeniu: „W związku z ukazaniem się na łamach tygodnika „Niwa" nr 36 (3353) z dnia 10.09.2018 r. publikacji prasowej pt. "Nie usim dazwolena", poruszającą sprawę eksploatowania przez Urząd Gminy samochodu marki „Żuk" przeznaczonego do przewozu osób niepełnosprawnych (powinno być : „Volkswagen Transporter TS" — przyp. S.W.). Ubolewam z tego powodu i przepraszam zainteresowanych: Redakcję tygodnika „Niwa" i czytelników, również internautów. Nie jestem znawcą marek samochodów. W moim odczuciu pomyłka nie jest fałszem. Problem, co do meritum sprawy, pozostaje niewyjaśniony. Przeciwnie. Moje podejrzenia dotyczące eksploatacji gminnego samochodu do przewozu osób niepełnosprawnych okazują się bardziej prawdopodobne do stwierdzenia, iż zachodzi podejrzenie o możliwości popełnienia przestępstwa przez urzędnika państwowego w przekroczeniu uprawnień i poświadczeniu w dokumentach nieprawdy. A to jest czyn karalny. Obowiązkiem moim, jako korespondenta i osoby niepełnosprawnej było wyjaśnienie, czy samochód będący w eksploatacji gminy, zakupiony ze środków Państwowego Funduszu Rehabilitacji Osób Niepełnosprawnych w ramach programu rządowego jest wykorzystywany zgodnie z przeznaczeniem, czy też nie. I dlatego upraszam Pana Wójta o publiczne przedstawienie zatwierdzonego programu "Wyrównywania różnic między regionami w obszarze D — likwidacja barier transportowych ze środków PFRON", w którym znajdziemy odpowiedź na nurtujące nas pytania.

**Z poważaniem**
**Włodzimierz Sidoruk**
**korespondent tygodnika „Niwa"**

## 50 гадоў разам

Паўвека таму яны спалучылі свае мары і жыццёвыя мэты. Супольна пражылі 50 гадоў у любові, былі вернымі партнёрамі і перш за ўсё мелі да сябе поўны давер. Таму пераадолелі ўсе жыццёвыя перашкоды ды нягоды і дачакаліся юбілею. На ўрачыстае ўручэнне памятных медалёў ад прэзідэнта РП запрасіў юбіляраў-гараджан Ежы Сірак, бургамістр Гайнаўкі.

На ўрачыстасць прыбылі Марыя і Павел Аляксеюкі, Люба і Уладзімір Анхімы, Леаніда і Віктар Артэмюкі, Крыстына і Уладзімір Атаманчыкі, Ніна і Эдвард Бінчыцкія, Марыянна і Міраслаў Бароўскія, Ларыса і Станіслаў Хоміцкія, Ніна і Мікалай Філіновічы, Галіна і Ян Філоцы, Валянціна і Ян Гансоўскія, Луцыя і Мечыслаў Гарасімы, Марыя і Філіп Іванюкі, Вольга і Вацлаў Янкоўскія, Галіна і Сяргей Юзючукі, Марыя і Васіль Клімюкі, Марыя і Мікалай Клімюкі, Анна і Сцяпан Катэльчукі, Эмілія і Раман Кракі, Зінаіда і Яўген Краські, Анна і Аркадзь Леўчукі, Тэрэса і Ян Астроўскія, Вольга і Аляксандр Пракапюкі, Марыя і Збігнеў Рабэцкія, Валянціна і Юрый Сагайдукі, Ніна і Ян Скепкі, Лідзія і Юрый Смактуновічы, Галена і Аляксей Шварцы, Марыя і Ян Такарчукі, Галіна і Сцяпан Тшаскі, Зоя і Віталь Валкавыцкія, Ірэна і Эдвард Заянчкоўскія ды Тэрэса і Сяргей Жэдзі.

Пасля афіцыйнай часткі і міні-канцэрта былі самыя лепшыя зычанні моцнага здароўя, поспехаў і доўгіх гадоў жыцця ад сямейнікаў ды вясельнае шампанскае. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Школе ў Залуках — 10 гадоў!

Юбілей гэта нагода для забавы, але таксама рэфлексіі і ўспамінаў. Пятніца 12 кастрычніка была ў Залуках сапраўды святочным днём. У Непублічнай пачатковай школе маленькі юбілей святкавалі не толькі вучні і настаўнікі, але таксама бацькі, дашкольнікі, жыхары Залук, войт і госці з Беластока. Было вельмі ўрачыста!



## Кароткая гісторыя школы

Залукі — невялікая вёсачка ў Гарадоцкай гміне. Тут непадалёк плыве маляўнічая рака Супрасль, а Кнышынская пушча кліча ў грыбы. Тут таксама існуе невялікая пачатковая школа, да якой вучні прыязджаюць на роварах, або прыходзяць пяшком. Некаторыя могуць прачынацца ў сем раніцы і спакойна паспець прыйсці ў школу перад першым званком, які звініць роўна ў восем гадзін.

Школа ў Залуках невялікая. Таму свайго часу была закрытая, а дзеці мелі даязджаць у Гарадок. З такім рашэннем не пагадзіліся бацькі і мясцовыя дзеячы, якія не ўяўлялі сабе вёсачкі без школы. Усе яны ўзяліся за рамонт, упарадкавалі плошчу перад школай і пабудавалі пляцоўку для гульняў. Школа ажыла!

Але школа не памянялася толькі звонку. Усе вучні пачалі вывучаць беларускую мову. Зараз яны — актыўныя чытачы „Зоркі”!



## Свята школы

Ужо на некалькі тыдняў да юбілею настаўнікі з вучнямі рыхтавалі школьныя газеткі, упрыгожвалі рэгіянальны куток і рыхтаваліся да выступленняў. На свята школы ўсе прыйшлі элегантна апранутыя і шчаслівыя, што таго дня не будзе заняткаў. Гасцей вучні прывіталі на пяці мовах: польскай, беларускай, расійскай, англійскай і эсперанта. Менавіта гэтым усім мовам дзеці вучацца ў Залуках. Госці маглі даведацца, што цікавае адбывалася на працягу 10 гадоў у школе. Былі кранальныя ўспаміны выпускнікоў, а школьны хор праспяваў песню, створаную адмыслова на юбілей. Было відаць эмоцыі публікі, а нават слёзы ўзрушанасці ў вачах. Здавалася, што ніколі не сціхнуць апладысменты. На канец кожны мог пакаштаваць юбілейны торт, пры якім госці жадалі школе яшчэ многіх гадоў існавання, гімнастычнай залы, але таксама ўспамінаў, на якія варта працаваць!

**Уршуля ШУБЗДА**

Мікола Хведаровіч

## Лістапад

Лісцё ў кастрычніку ляціць
На мокрую траву.
Ля весніц клён стары стаіць,
Схіліўшы галаву.

Пяюць вятры, нясуць яны
Халодны змрок і сум.
І сцелюць лісцяў дываны —
Асеннюю красу.

Цябе любіў я і люблю,
Мой звонкі лістапад.
Бы ў грудзі, грукае ў зямлю
Антонаўскі апад.

На ўзлёце крылле распусціў
Знясілены вятрак.
Ён жорны цэлы век круціў,
Стаміўся, небарак.

Калючы дождж яго дзяўбе,
А ён з-пад самых зор
Глядзіць, паставіўшы сябе
Вятрам наперакор.

## УВАГА КОНКУРС! № 43-18

На зямлю садзяцца сумна
Жоўценькія матылі,
Пэўна ў іх пра тое думы,
Як зялёнымі былі.
(падаюць л.... ў восень)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 4 лістапада 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 39: злы сабака. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Агата Галубовіч і Патрыцыя Ляўковіч з Шудзялава. Віншуем!**

Размалюйце

# Маляванка — Анёлы!

Анёлы — гэта духоўныя істоты, якія маюць розум і свабодную волю. Яны абараняюць нас ад злога і заахвочваюць выбіраць дабро. Анёлы здольныя ўплываць на нашы пачуцці і ўяўленні, аднак не маюць уплыву на нашу волю. Яны не могуць выбіраць за нас, хоць і заахвочваюць нас усімі магчымымі спосабамі ісці за тым, што з'яўляецца добрым і шчырым.

Так кажа хрысціянская традыцыя пра гэтых добрых духаў.





*Малюнак «Анёлы» — Ніна Сакалова-Кубай.*

Марта ВЕРЭМЕЮК
КШ у Міхалове

## Пара

На зямлю восень прыйшла,
Лістоў чырвоных прынесла.
У лесе грыбы збірала,
Песеньку сваю спявала,
Цяпер дажджом у вокны іграе
І спявае, усё спявае
Пра дубы, сосны, рабіны.

Янка Купала

## Песня і казка

*Песня і казка*
*Ходзяць у пары,*
*Сеюць па свеце*
*Дзівы і чары,*

*Будзяць спрасоння*
*Думкі дзіцячы,*
*Як той уранні*
*Промень свяцячы.*

*Песня і казка,*
*Як у крышталі,*
*Свету пакажуць*
*Тайныя далі.*

*Шляхі намецяць*
*К сонцу і зорам*
*Для людской долі,*
*Скованай горам.*

*Песня і казка*
*У райскіх праявах*
*Шчасце здабудуць*
*З кветак яскравых.*

*Сэрца атуляць*
*Вечнаю ласкай...*
*Слухай жа, сэрца,*
*Песняў і казкаў.*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Самаўпэўнены дурань

Спыталі раз у надта ўпэўненага дзядзькі: «А ці бачыў ён калі-небудзь саўну?»

А той надзьмуў шчокі і кажа:

— Вядома! Не толькі бачыў, але і пакаштаваў яе мяса!

І яго спыталі:

— А да каго яна падобная, тая саўна?

— У яе такія рогі, як у свінні... — адказаў з надта важнай мінай.

Людзі пачалі рагатаць, ажно жываты трэсліся. А пасля сказалі:

— Гэты самаўпэўнены дурань у жыцці не бачыў ні саўны, ні свінні!

(*пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк*)

# Польска-беларуская крыжаванка № 43-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39-2018:**

Сем, сена, ахова, указ, рост, мантаж, мандарыны, пара, так, трава. Сяло, Іна, мат, мара, ранак, фонд, на, старт, хутар, сок, жыла, Ева, мазь.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Мартына Барэвіч** з Бабік, **Губерт Пільціцкі, Габрыела Кіяшко** з Шудзялава, **Магда Якубюк** з Бельска- Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Lenek | Ona | | | Punkt | Pocałunek | | Krok |
| | | | | Piosenka | | | |
| | Link / Bierz | | Bat / Lew | | | | |
| | | Las / Moc | | | | Lakier | |
| | Księżyc | | | | | | |
| | | | | | Car | | |
| Klaun | | | Pestka | | | | |

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Сёстры Урублеўскія: „Бацьку білі спружынай з волавам”

Сёння Дзятлаўшчыну смела можна называць маленькай беларускай Беласточчынай. Сотні беларусаў пасля Другой сусветнай вайны не па сваёй добрай волі прыехалі сюды з беластоцкіх вёсак і гарадоў.

Такі лёс напаткаў і сям'ю Урублеўскіх з вёскі Малешы Вышкаўскай гміны. На Дзятлаўшчыне ў вёсцы Маскалёўцы жывуць сёстры Таццяна і Вольга Урублеўскія. Таццяне Урублеўскай (Крупенік) — 83 гады, а яе сястры Вользе Урублеўсккай (Жыгала) — 89 гадоў. Жанчыны даволі жвавыя яшчэ, рухавыя, жывуць на адной вуліцы ў розных хатах, мужыкі даўно памерлі, а яны так і не выходзілі больш замуж.

Таццяна Крупенік усё жыццё адпрацавала ў калгаснай бухгалтэрыі, а яе сястра Вольга — паляводам. На здароўе жанчыны не скардзяцца, хаця ўзрост дае пра сябе знаць. „Як вы трапілі ў Маскалёўцы на Дзятлаўшчыну з Малешаў?”, — пытаюся ў сясцёр-беларусак. „Пра гэта можна распавядаць доўга, — кажуць жанчыны. — Мы ўсё памятаем, бо прыехалі на Дзятлаўшчыну ў 1946 годзе. Спачатку прыехалі на станцыю Наваельня. Там нас бацька часова пакінуў, а сам паехаў шукаць на Дзятлаўшчыне пустыя будынкі, куды можна было б засяліцца. Шукаў цэлы тыдзень, а потым знайшоў нейкую хібару ў Маскалёўцах, куды мы і пераехалі жыць. З гадамі, калі павыходзілі замуж — пабудавалі свае хаты”.





■ Так выглядаюць Таццяна і Вольга Урублеўскія сёння



■ Васіль Урублеўскі (у цэнтры) з сынамі і зяцямі, 1960-я гады

**— Што памятаецца з Малешаў?**

— Добра памятаем вайну, як адступалі немцы. Нашых вяскоўцаў яны застаўлялі капаць акопы. А калі адступалі — палілі хаты, усюды ляталі бомбы. Калі вёска гарэла, мы ўцяклі ў поле, хаваліся ў жыце. А снарады ляталі над галавою. Памятаем такі гул: квок-квок-квок-бабах. Страшна было. Потым мы ўцяклі ў вёскі Стрыкі і Стацэвічы. Хаваліся ў сваякоў. А калі немцы адступілі, вярнуліся ўсе, хто застаўся жывы. Шмат было пабіта людзей, кароў, авечак. Гэта добра памятаецца. І царква была недалёка на перакрыжаванні дарог, там нас хрысцілі. Але яна, здаецца, згарэла ў вайну. У вёсцы ў асноўным жылі беларусы, якія былі праваслаўныя і наведвалі гэту царкву. А побач недалёка жыў бацюшка. Шмат шкоды нарабіла вайна.

**— А чаму вы пасля вайны пакінулі родную вёску?**

— Мы не хацелі пакідаць родную вёску, дзе ўсё нам было знаёма да драбніц. Не хацелі пакідаць сваёй зямлі і развітвацца са сваякамі. Мы ў вёсцы дружна жылі: і беларусы, і палякі. Але адразу пасля вайны па вёсках пачалі хадзіць польскія банды, якія рабавалі беларусаў, білі іх, казалі, каб мы ехалі да свайго Сталіна. Бацька з маці паціху таксама рыхтаваліся выехаць на ўсход Беларусі. У нас было дзве каровы, адну прадалі, каб мець сякія-такія грошы на дарогу. Польскія банды на рынку адсочвалі, хто што прадае. Потым вечарам ці ноччу, а таксама і днём, прыходзілі да тых беларусаў і забіралі грошы. Бацька, калі прадаў карову, палову грошай закапаў за хатай пад камень, а палову засунуў у сяннік.

**— А да вас заходзілі банды рабаўнікоў?**

— Так. Калі бацька прадаў карову, адразу да нас завіталі некалькі маладых асоб з польскай банды рабаўнікоў і пачалі дамагацца грошай ад прададзенай каровы. Бацька не даваў. Тады яны яго пачалі біць нейкай спружынай. На канцы гэтай спружыны было волава, білі па чым папала. Мы бачылі ў бацькі сінякі. Яны да сённяшніх дзён стаяць у нашых вачах.

**— Ці аддаў бацька грошы?**

— Маці пачала плакаць, казаць: „Аддай грошы, бо яны цябе і ўсіх нас заб'юць!”. Тыя грошы, якія былі схаваныя ў сенніку, бацька аддаў, а закапаныя пад каменем — не, яны нам спатрэбіліся, калі паехалі з родных мясцін.

**— Толькі вашу сям'ю наведалі пасля вайны банды ў Малешах, ці былі яны і ў іншых беларускіх сем'ях?**

— Амаль усе беларускія сем'і наведалі бандыты. Мы, беларусы, хаваліся нават у вясковых польскіх сем'ях. Да палякаў бандыты не заходзілі. І землякі-палякі нас ратавалі, бо мы і там ад іх хаваліся. У нашай вёсцы бандыты забілі настаўніцу беларускай мовы, якая працавала ў пачатковай школе. Здаецца, яе звалі Надзея Дзмітраўна. З нашай вёскі пасля вайны выехалі 16 сем'яў-беларусаў на Дзятлаўшчыну. А ў Малешах было 160 хат.

**— І як вас сустрэлі жыхары Дзятлаўшчыны пасля вайны?**

— Мы яшчэ былі школьнікі, але добра памятаем, што не ўсё разумелі, як тут размаўлялі людзі. Мова вельмі адрознівалася. Мы ў Малешах і ў суседніх вёсках гутарылі па-паляшуцку. Мы казалі так: корова, кобыла, курка, овэцка, ялошка... А на Дзятлаўшчыне, калі прыехалі, людзі размаўлялі інакш. Але мы хутка прывыклі, і пачалі размаўляць па-беларуску, як і цяпер.

**— Кім працавалі вашы бацькі ў Малешах?**

— Мама ўвіхалася хатняй гаспадыняй, а тата Васіль Урублеўскі быў даволі адукаваным чалавекам. Ён працаваў настаўнікам у Вышках у пачатковай школе, а гэта 6 кіламетраў ад нашай роднай вёскі. Тата вельмі часта з Вышкаў прывозіў нам пачастункі, ён таксама браў нас у школу. Мы хадзілі па класах, глядзелі і нам усё было вельмі цікава. Дарога ў Вышкі з Малешаў ішла праз поле. Нам падабалася разам з татам бываць у Вышках. Тата меў яшчэ двух братоў. Мы ўсе жылі ў вялікім доме разам з імі. У кожнага брата быў свой пакой і асобны ўваход. У вайну дом немцы спалілі.

**— Што вы з сабой з Беласточчыны прывезлі на Дзятлаўшчыну?**

— Нам выдаткавалі адзін таварны вагон. З сабой мы ўзялі каня, адну карову, у нас было дзве, 25 гусей, курэй і ўсё гэта мы везлі з сабой.

**— Ці хацелася вам на Беласточчыну?**

— Бацькам хацелася, а мы былі яшчэ дзеці. Але з гадамі прывыклі і да дзятлаўскіх людзей, тым больш, што на Дзятлаўшчыну шмат пераехала і нашых землякоў. Мы прыехалі ў траўні 1946 года. Жыта было ўжо пасеяна, але бульбу яшчэ не пасадзілі. Хата, куды мы засяліліся, была старой і цеснай, памятаем толькі шмат мышэй і тараканаў. У ёй жылі палякі, якія пасля вайны выехалі ў Польшчу. Бацька тут працаваў у калгасе. Спачатку сакратаром у сельсавеце, а потым — рахункаводам. Пражыў ён 84 гады.

На Дзятлаўшчыне Вольга і Таццяна Урублеўскія выйшлі замуж, нарадзілі дзяцей. Праўда, іх мужы рана памерлі — адзін пражыў усяго 36 гадоў, другі — 46. Больш жанчыны замуж не выходзілі. Старыя фотаздымкі іх з Беласточчыны не захаваліся.

Сяргей ЧЫГРЫН

❖Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Мастаўляны



■ Царква Іаана Багаслова ў Мастаўлянах

Апошнія тры дзесяцігоддзі характарызуюцца павышанай грамадскай дынамікай, якая, як мне здаецца, прапануе нашым людзям, як гэта вобразна гаворыцца, вуды і невады, не надта клапоцячыся наяўнасцю рыбы. Для прыкладу — публічная камунікацыя, дзе аўральнымі тэмпамі будуюцца мадэрныя дарогі, з якіх менш спешна знікаюць аўтобусы масавай камунікацыі. Для чарговага прыкладу — каля дваццаці гадоў таму, калі не надта памыляюся, мадэрнізавана была шаша ў напрамку Баброўнік, а пару гадоў таму зніклі з яе аўтобусы грамадскага транспарту, што курсіравалі між Гарадком і тымі ж Баброўнікамі...

Вось надыходзіла свята Іаана Багаслова. Заглянуў я на царкоўны партал і там даведаўся, што ў ліку некалькіх прыходаў, дзе адзначаецца яно асабліва ўрачыста, ёсць і Мастаўляны. Даўно-даўно бываў я ў тамашнім наваколлі, мо ўжо і дзясятак гадоў прамінуў з таго часу. У эпоху курсіравання аўтобусаў у Баброўнікі дабрацца ў Мастаўляны было нескладана: злазіў я з аўтобуса ў Зубках, заглядаў на зарастаючую лесам тамашнюю чыгуначную станцыю, а затым кіраваўся ў бок Свіслачан, ад якіх у Мастаўляны было як шапкай кінуць...

Цяпер у Мастаўляны таксама можна дабрацца пяшком, толькі па іншым маршруце. Можна заехаць у Зубры, але з Беластока аўтобус у Гарадок, з далейшай перасадкай, адпраўляецца ў пяць гадзін раніцы. У Зубры такім чынам можна дабрацца ўжо пад сёмую раніцы. А пазней часу хоць адбаўляй на тыя пяць кіламетраў у Мастаўляны. А дзеля вяртання зноў часу вельмі багата. Лепш у Мастаўляны дабрацца з Ялоўкі — восем кіламетраў, але гадзіны больш зручныя.

Аўтобус з Беластока ў Ялоўку адпраўляецца амаль дзве гадзіны пазней за той, што ў Гарадок са спалучэннем у Зубры. Надвор'е за вокнамі аўтобуснага салона сімпатычнае, сонейка яшчэ сігналіць сваю прысутнасць з-за лініі краявіду, а краявід той спачатку ахутаны далікатным саванам імглы. Далікатныя хмаркі падсветлены знізу фіялетавым ззяннем, якое са шпаркім ходам часу прымае залацістую афарбоўку. Пасля колеры нябесных хмарак, з узыходам сонца, пераймае восеньскае лістоўе прыдарожнага лесу. Сядзіш у памяркоўна людным аўтобусным салоне і захапляешся прыроднай восеньскай палітрай.

У Ялоўцы заўважны той агульны грамадскі напрамак, які ад гадоў характэрны нашай Усходняй сцяне. Там таксама быў я даўнавата, гадоў прынамсі пяць мінула з таго часу. Тады было ў колішнім горадзе дзве крамы, цяпер ужо асталася толькі адна. Наша тутэйшая дэмаграфія — бязлітасная.

Дарога ад Ялоўкі ў бок Мастаўлян такая ж, як і была даўней — жвіроўка. Машын на ёй — што кот наплакаў. У Мастаўляны заходжу акурат пад дзясятую. Народу там нямнога ды і той не перад царквой, а перад могільнікавай каплічкай. Я на тых могілках калісь быў, але каплічка неяк не захавалася ў маёй памяці; яна такая непрыкметная, невялічкая. У царкве зараз праводзіцца рамонт, таму набажэнства і адпраўляецца ў той цесненькай капліцы. Аднак у ёй не надта цесна, асабліва вернікам — бо іх нямнога, мо з трыццаць асоб. Больш цесна святарам — іх траіх, але адпраўляюць толькі два, бо ў алтарнай частцы правіць ім усім было б нязручна з-за цеснаты. Таму адзін з іх, як згадваюся — тамашні настаяцель, займаецца больш арганізацыйнымі справамі. І ўсе тры яны скажуць па пропаведзі. „Арганізацыйны” закране арганізацыйныя справы; просіць ён менавіта вернікаў, каб не прыносілі на могілкі ні шкляных лампад, ні вянкоў са штучных кветак. Бо гэта адміністратару могілак адна толькі турбота — трэба іх, устарэлых, прыбіраць. Паколькі ў прыходзе трое могілак: яшчэ ў Баброўніках і Коматаўцах, то штогадова прыход за іх прыбіранне мусіць траціць па шэсць тысяч злотаў; а народу асталося мала. Пакойнікам трэба прыносіць малітву, а не ўсялякую груваслкасць... Другія святары свае пропаведзі прысвяцілі асобе Іаана Багаслова, звяртаючы ўвагу, што ён лічыцца апосталам любві. Падкрэсліваў гэта асабліва бацюшка ў мітры, які шмат разоў паўтараў мантру пра апостальства любві аўтара Апакаліпсіса. У мяне склалася ўражанне, што ў яго з'явілася рэдкая нагода гаварыць да шырокай, хаця сціпленькай, публікі; магчыма, што дома ён пад пятой і толькі з вышыні алтара мае ён нагоду дарвацца да голасу...



■ Дублянская хата з салтысоўскай шыльдай

Пасля службы вернікі мелі магчымасць заглянуць у рамантаваную прыходскую царкву. Сапраўды, рамонт там у разгары; і ён неабходны. Драўляныя калоны, на якіх абапіраецца канструкцыя даху, моцна ўжо падпарахнелі і калі б не пільная падмена іх, то ў перспектыве можа нават дзесяці гадоў яны маглі б не ўтрымаць сваёй ролі, маглі б здацца пад цяжарам даху...

У канцы XIX стагоддзя Мастаўлянскі прыход так быў характарызаваны царкоўнымі крыніцамі: „Приходская церковь Великоберестовицкого благочиния в селе Мостовляны Гродненского уезда. Церковь деревянная, с такой же колокольней, сооружена прихожанами в 1861 году, на месте былой сооруженной прихожанами же в 1843 году после сгоревшей в 1841 году, построенной в 1791 году помещицей Булгариновой. Отстоит от города Гродно в 77 верстах. Прихожан при ней: 1605 мужского пола и 1602 женского, а всего 3207 в 11 селениях: Мостовлянах, Бурсовщизне, Воробьях, Грибовцах, Дублянах, Зубках, Зубрах, Колосах, Свислочанах, Скробляках и Страшеве, — из коих самое отдаленное от приходской церкви — Грибовцы — в 10 верстах. Имеются: кладбищенская Косьмо-Дамиановская церковь в Мостовлянах, братство, церковноприходское попечительство, три церковные школы: в Грибовцах, Скробляках и Страшеве, с 40 учащихся в них мальчиков и 9 девочек, — народное училище в селе Мостовляны с 75 обучающихся мальчиков и 1 девочкой”. Другая сусветная вайна перасякла прыход па рацэ Свіслачы дзяржаўнай савецкапольскай „граніцай дружбы”. За межамі прыхода аказаліся Каласы і Бурсаўшчына. Менавіта ў Каласы і вяла дарога цераз Свіслач, на якой быў мост, што даў названне прыходскай мясцовасці. Зараз мосту там, вядома, няма, а на даўніх дарогах да яго пастаўлены гранічныя слупы Польшчы і Беларусі.

Польская Вікіпедыя падае пра Каласы сціплую інфармацыю; вытрымкі з яе: „Kołosy (biał. Каласы, Kałasy, ros. Колосы, Kołosy) — wieś na Białorusi, w obwodzie grodzieńskim, w rejonie brzostowickim, w sielsowiecie Pograniczny. Położona jest 53 km na wschód od Białegostoku, 3 km od granicy polsko-białoruskiej, na zachodnim brzegu rzeki Świsłoczy, w oficjalnej strefie przygranicznej Białorusi. Na południe od wsi przebiega granica administracyjna pomiędzy rejonami brzostowickim i świsłockim. W czasach zaborów wieś i dobra w granicach Imperium Rosyjskiego, w guberni grodzieńskiej, w powiecie wołkowyskim, w gminie Świsłocz. W 1902 roku wieś miała powierzchnię 76 dziesięcin (ok. 83 ha), dobra zaś były własnością Butkiewiczów i razem z folwarkami Laski i Woronki miały powierzchnię 880 dziesięcin (ok. 961,4 ha). Od 1991 roku w składzie niepodległej Białorusi. Według spisu powszechnego z 1921 roku wieś zamieszkana była przez 219 osób, w tym 199 Polaków i 20 Białorusinów. Prawosławie wyznawało 212 mieszkańców, katolicyzm — 7”.

Згаданы мост на Свіслачы быў калісь важным дарожным звяном, звязваючым Вільню і Гродна з Кракавам. Ёсць меркаванне, што апошнія каралі з роду Ягелонаў задумвалі недзе ў гэтым наваколлі пасадзіць сталіцу Рэчы Паспалітай, назваўшы яе ад сваіх імёнаў Зыгмунтовам. Не надта зараз вядома, дзе тая сталіца мела быць, магчыма, што ў цяперашніх Мастаўлянах, а магчыма, што ў неадлеглай Галынцы, што насупраць каляркрушынянскіх Рудакоў. Атрымалася крыху інакш; Жыгімонту Аўгусту спадабаўся Кнышын, а пасля яго толькі Баторый любіў прабываць у Гродне.

Пра мастаўлянскую могілкавую капліцу; вікіпедыя: „Kaplicę wzniesiono w końcu XVIII w. na cmentarzu prawosławnym. Budowla drewniana, o konstrukcji zrębowej, orientowana, salowa, zamknięta prostokątnie. Obiekt bezwieżowy, z dobudowaną w 1840 kruchtą. Dachy blaszane, jednokalenicowe, z krzyżami”. І пра прыходскую царкву: „Świątynię wzniesiono w 1862 na planie kwadratu. W 1908 dobudowano kruchtę z wieżą-dzwonnicą. Budowla drewniana, o konstrukcji zrębowej, orientowana, salowa, zamknięta prostokątnie. Przy wejściu zadaszony ganek. Nad kruchtą dzwonnica — u dołu

працяг ☞ 11

1 ☞ працяг

# НІВА ў Гайнаўскім белмузеі

— Інфармацыя найхутчэй паяўляецца на радыё. Наша Радыё Рацыя — трансгранічнае і вяшчае на два бакі мяжы. Нашы перадачы можна слухаць на тэрыторыі, заселенай 3 мільёнамі людзей. Каб наша радыё магло вяшчаць кругласутачна, працуюць на ім больш за семдзесят чалавек. З дапамогай інтэрнэту могуць нашае радыё слухаць беларусы ва ўсім свеце. Мы арганізуем прамыя трансляцыі з «Восені бардаў» і «Басовішча», з якога апошнім гадамі вядзецца таксама відэатрансляцыя, — сказаў Яўген Вапа і ўдакладніў, што песні на Радыё Рацыя прэзентуюцца на беларускай, англійскай, польскай, украінскай і іншых мовах. Многа слухачоў Радыё Рацыя жыве на Гродзеншчыне, Брэстчыне, Беласточчыне, але можна яго слухаць таксама ў Люблінскім і Мазавецкім ваяводствах.

— Нам вельмі спадабалася сённяшняя сустрэча з галоўным рэдактарам «Нівы» Яўгенам Вапам. Ён цікава расказаў пра газету «Ніва», Радыё Рацыя і перш за ўсё шчыра гаварыў пра сваю вучобу ў нашым белліцэі. Цікавым было спатканне з асобай, якая многа робіць і патрапіць распавядаць пра гэта, — заявіла пасля завяршэння сустрэчы гайнаўская белліцэістка Патрыцыя Сямяцкая. Яе



■ Спатканне з Яўгенам Вапам у рамках праекта «Кірыліцай пісане» наладзіла музейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк

сяброўкі таксама сказалі, што зацікавіла іх спатканне.

— Займальным было спатканне са спадаром Яўгенам Вапам, які цікава расказваў пра «Ніву» і кніжкі, якія выдае беларуская газета, а таксама пра Радыё Рацыя і многа новага мы сёння даведаліся. Заахвочваў нас пісаць свае тэксты ў «Ніву», што можа быць цікавым. Спадар Вапа многа робіць для беларусаў у Польшчы і цікава было паслухаць пра яго вучобу ў нашым ліцэі, — сказалі вучаніцы Гайнаўскага белліцэя Магда Саевіч з Войнаўкі і Марта Аўласюк з Трашчотак, якая ўдакладніла, што рашылася вучыцца ў Гайнаўскім белліцэі таму, што можа жыць у Гайнаўцы на кватэры ў сваёй бабулі.

— Госць спаткання Яўген Вапа вядомы нашым вучням перш за ўсё як галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва», які вучні першага класа чытаюць пастаянна. Сустрэчы з пісьменнікамі і іншымі людзьмі, якія займаюцца беларускімі справамі, мы стараемся арганізаваць у белліцэі або белмузеі. Яны патрэбныя, каб нашы ліцэісты маглі фармаваць свой падыход да беларускіх спраў і маглі пазнаёміцца з грамадска-культурным жыццём беларускага асяроддзя, — гаварыў настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі.

— Сёння ліцэісты маглі многа даведацца пра дзейнасць беларускіх сродкаў масавай інфармацыі ў Польшчы. Думаю, што размова спадара Яўгена Вапы з белліцэістамі мела таксама ўздзеянне на фармаванне іх нацыянальнай тоеснасці, — заявіла арганізатарка спаткання Віялета Андрасюк.

— Я перад сённяшнім спатканнем хваляваўся і атрымалася яно эмацыйным. Не ведаў я раней, што так многа бацькоў цяперашніх белліцэістаў жыве ўжо ў Гайнаўцы. Гэта паскарае асіміляцыйныя працэсы, якія стрымліваюцца дзякуючы, між іншым, «Ніве» і Радыё Рацыя, — сказаў Яўген Вапа.

❖ Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Апошнім часам у беларускай сталіцы, а таксама ў некаторых буйных гарадах Беларусі, пачалі з'яўляцца кавярні ці малыя рэстараны з прэтэнзіяй на беларускамоўнасць. Такую сітуацыю, канешне, можна толькі вітаць, бо яна спрыяе калі не пашырэнню, то хаця б захаванню беларускай мовы. „Ніва" і раней пісала пра такія беларускамоўныя пункты харчавання, дакладней, пра іх сайты, і ў гэтым дачыненні варта распавесці пра тых кухараў, якія асноўны шлях да кліента бачаць выключна ў інтэрнэце. Яны нават так і назвалі свой сайт дастаўкі ежы http://edraniki.by.

Дадзены сайт цалкам беларускамоўны, са зразумелай навігацыяй і прываблівым выглядам. На галоўнай старонцы, як належыць, на самым бачным месцы знаходзіцца паведамленне пра цяперашнюю акцыю. „Падарунак ад шэф-кухары", — напісана там вялікімі літарамі. Праўда, не зусім зразумела, што гэта за слова „кухара" і ці значыць яно тое ж самае што і „кухар".

„eDRANIKI.by — першая беларуская дастаўка ежы. Нашы дранікі сытныя і смачныя, нашы супы духмяныя, бульба надрумяненая, а курачка сакавітая. Кожная наша страва гатуецца паводле арыгінальнага рэцэпту з самых свежых і натуральных інгрэдыентаў. Сапраўдны вясковы смак і порцыі, як у дзяцінстве, вялікія і сытныя. Быццам у гасцях у бабулі! Абавязкова паспрабуйце нашы дранікі і адчуйце смак роднай беларускай ежы! І вы палюбіце іх гэтак жа, як мы", — такі заклік месціцца пад словамі „Смачныя дранікі і хуткая дастаўка", якія знаходзяцца ўверсе галоўнай старонкі.

Там жа даюцца два водгукі на ежу і дастаўку. Зразумела, ніякага негатыву, толькі пазітыўныя ўражанні. Аднак, нягледзячы на станоўчыя водгукі і даволі добра аформлены сайт „электронных дранікаў", ёсць тыя, каму не ўсё там спадабалася.

„Некалькі разоў замаўлялі, апошні раз каля году таму: па тэлефоне адказваюць па-наску, але кур'еры выключна расейскамоўныя, з-за чаго не атрымлівалі на піўко. Самі дранікі цалкам ніштаватыя і зручна запакаваныя, але замена прыемных драўляных аднаразовых відэльцаў на самыя танныя плястыкавыя ў горшых традыцыях кірмашнага фастфуду 90-х адбіла жаданьне зьвязвацца зь імі надалей", — напісаў аб eDraniki на сайце-каталогу беларускамоўнага бізнесу „Сваe" нейкі Віталь Манько ў верасні мінулага года.

„Замаўлялі сёньня ў офіс праз сайт. Аператарка па тэлефоне размаўляла на бездакорнай беларускай, маё вуха не выявіла аніякіх русізмаў ды трасянчыны, але кур'ер, які дастаўляў ежу, размаўляў па-расейску, нават калі да яго прынцыпова зьвярталіся на беларускай, і не спрабаваў устаўляць асобныя словы як „дзякуй" і г.д. Кур'ер не спазьніўся. Самі дранікі цалкам ядомыя — не топ №1 майго рэйтынгу, але смачна. Порцыі сытныя, візуальны памер падманлівы — спачатку выглядае меней, чым адчувае потым страўнік. Агулам, сэрвісам цалкам можна карыстацца", — распавёў на тым жа сайце-каталогу другі кліент „электронных дранікаў" Павел Колас.

Яшчэ тры гады таму пратэставала працу гэтай дастаўкі ежы газета „Наша ніва". „Намаганні eDraniki вельмі крэатыўныя, але ім ёсць над чым працаваць.Калі вам моцна захочацца дранікаў у офісе — замаўляйце", — раіць выданне.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

Аркадзь Смоліч, аўтар праграмы БСДП

# 100 гадоў з часу ўтварэння
## Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі

Першая БСДП у гісторыі Беларусі — палітычная партыя, якая дзеіла ў 1918-24 гадах. Яе папярэдніцай была Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), якая раскалолася на некалькі партый. Яшчэ ў 1915 г. на тэрыторыі Беларусі, акупаванай нямецкімі войскамі, браты Луцкевічы, Цётка і іншыя выйшлі з БСГ і ўтварылі Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу (БСДРГ).

Пасля расколу БСГ у красавіку 1918 г. беларускія марксісты, якія дзеілі ва Усходняй Беларусі, аб'ядналіся з БСДРГ і ўтварылі БСДП. Актыўнымі дзеячамі партыі былі Вацлаў Іваноўскі, Іван Краскоўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Язэп Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аркадзь Смоліч, Браніслаў Тарашкевіч.

Праект праграмы БСДП складзены ў 1919 г. Смолічам. Партыя лічыла, што пераход да сацыялізму магчымы толькі ў высокаразвітой краіне. БСДП меркавала, што да сацыялізму можна прыйсці шляхам рэформ. Не адмаўляючы ідэі дыктатуры пралетарыяту, члены БСДП лічылі, што ўстанаўленне палітычнай улады рабочага класа будзе магчыма толькі тады, калі ён складзе большасць насельніцтва і пераможа на дэмакратычных выбарах. У галіне сельскай гаспадаркі БСДП стаяла за нацыяналізацыю памешчыцкай, манастырскай і царкоўнай зямлі і перадачу яе беззямельным і малазямельным сялянам. Пры гэтым не выключала магчымасці выкупу памешчыцкай зямлі дзяржавай. Прапаноўвала перадаць сялянам зямлю ў пажыццёвае карыстанне з правам перадачы ў спадчыну. Партыя выступала за развіццё кааперацыі ў вёсцы. Яна лічыла, што кааперацыя рыхтуе рэальных практычных працаўнікоў і арганізатараў будучага сацыялістычнага ладу. Развіццё сельскай гаспадаркі разглядалася як неабходная ўмова развіцця прамысловасці.

БСДП лічыла, што для сацыялізацыі вытворчасці на Беларусі яшчэ не было ўмоў, і папярэджвала, што неадкладная сацыялізацыя можа прывесці да «бюракратычнага сацыялізму», эканамічнай катастрофы. У праекце праграмы прадугледжваўся комплекс эканамічных мер для барацьбы з эксплуатацыяй на вёсцы, а таксама меры сацыяльнай абароны рабочых. На думку эсдэкаў, усе рэформы можна ажыццявіць у свабоднай і дэмакратычнай краіне. БСДП выступала за незалежнасць Беларусі як дэмакратычнай рэспублікі. Эсдэкі лічылі: вольны ад эксплуатацыі народ будзе выяўляць сваю творчасць у нацыянальных формах; задача сацыялізму — не знішчэнне нацыянальных асаблівасцей, а іх культываванне; прагрэс павінен весці не да асіміляцыі народаў, а да найвышэйшай формы іх згоднага жыцця, да працоўнага інтэрнацыянала. Падзеі вайны перашкодзілі БСДП правесці ўстаноўчы з'езд і зацвердзіць праграму.

У БССР дзейнасць партыі была спынена арыштам актывістаў у сакавіку 1921 года. Лёсік, Смоліч былі рэабілітаваны і працавалі ў навуковых і навучальных установах. У Заходняй Беларусі БСДП была ў апазіцыі да польскага ўрада. Прытрымлівалася легальных, парламенцкіх форм барацьбы. Удзельнічала ў стварэнні Блока нацыянальных меншасцей, які на выбарах у Сейм у лістападзе 1922 г. атрымаў 28% галасоў. У 1922 г. у БСДП аформілася больш левае крыло на чале з Рак-Міхайлоўскім — Беларуская партыя незалежных сацыялістаў. Пазней да яе далучыўся Тарашкевіч. У 1925 г. БПНС амаль цалкам злілася з КПЗБ. Ад БСДП засталася вузкая група інтэлігентаў на чале з Антонам Луцкевічам, які называў партыю штабам без арміі.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

9 ☞ працяг **Мастаўляны**

czworoboczna, wyżej ośmioboczna, zwieńczona ostrosłupowym hełmem. Nad nawą blaszany dach namiotowy, zwieńczony dwiema wieżyczkami z baniastymi hełmami. Cmentarz przycerkiewny pochodzi z XVIII wieku".

У Ялоўку вяртаюся цераз Дубляны. На турыстычнай тапаграфічнай карце, выдадзенай польскім генштабам каля дваццаці гадоў таму, Дубляны выглядаюць яшчэ прыстойнай вёскай. На фотаздымку ў Вікіпедыі вуліца ў вёсцы выглядае яшчэ не надта зарослай. Але на месцы даўняя вуліца стала ўжо вузкай дарожкай прабіваючайся цераз малады лясок. Усяго ў вёсцы асталося каля дзесяці хат, у іх ліку толькі дзве пастаянна абжытыя. Вікіпедыя: „Дубляны былі заснаваныя праўдападобна яшчэ на пачатку 16 ст. у маёмасьцях Вялікага Берастаўца на гасьцінцы з Горадні ў Ялаўку і Нарву. У другой палове 18 ст. Дубляны ўваходзілі ў склад мастаўлянскіх маёмасьцяў. Пад канец 18 ст. было тут 18 хатаў, а ў 1846 г. ужо 23. У міжваенны пэрыяд Дубляны ўваходзілі ў склад гміны Галынка Гарадзенскага павету Беластоцкага ваяводзтва. Паводле польскага перапісу насельніцтва 1921 г. пражывала тут 86 жыхароў (усе праваслаўныя беларусы). У выніку ваенных дзеяў 1944 г. згарэлі тут 18 хатаў і 44 гаспадарчыя пабудовы. У 1950 г. пражывала тут 110 чалавек, але пасьля правядзеньня мяжы на Сьвіслачы жыхары пачалі пакідаць вёску (колькасьць насельніцтва паміж гадамі 1950 і 2013 зьменшылася на 87%)". Даведнік Міхалоўскай гміны аўтарства Лешка Носа дадае да гэтага, што ў 1943 годзе немцы расстралялі пяцярых мужчын, а адступаючыя гітлераўцы прыхапілі з Дублян 9 коней, 31 карову, 31 вепрука і 32 авечкі. У 1970 годзе ў Дублянах пражывала 70 чалавек, у 1980 годзе напалову менш...

Насупраць Дублян была калісь вёска Бурсаўшчына. Яна абязлюднела іншым чынам: „Гэтая вялікая вёска з вадзяным млыном знаходзілася недалёка Каласоў і цягнулася ўздоўж правага берага рэчкі Свіслач. Пасля вайны тут прайшла памежная паласа і вёску прыйшлося знесці". Граніца значна змяніла тутэйшы краявід — яго антрапагеннасць саступае прыродзе.

❖Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (46)

У час «дагавораў» я запрасіў нявесту і бацькоў у госці. Бацька, Сцяпан Іванавіч, рэкамендаваў, каб Аня паехала з матуляй. Сустрэча адбылася ў Кузаве ў час прыхадскога фэсту на Тэклю. Тады і адбыліся апошнія размовы наконт падрыхтоўкі да «цывільнага» шлюбу. Дату назначылі на 30 красавіка 1968 года, перад Першамайскім шэсцем у Кляшчэлях. Пасля запісаў усе госці мелі падацца ў Дубяжын. Мы рашылі пасладь ад сябе чалавек пятнаццаць-дваццаць. Далейшых сваякоў запрашаў брат Віктар на сваё вяселле на 6 траўня.

Падрыхтоўка ў Дубяжыне адбывалася ў таямніцы перад аднавяскоўцамі. У Ані, маёй будучай жонкі, было яшчэ дзве замужнія сястры: Оля — у суседнім Мокрым і Марыся — у Дубяжыне. Апрача таго было двух братоў. Старэйшага Дзмітрыя, яшчэ кавалера, называлі «Мічурыным», бо многа чытаў і займаўся садаводствам. Малодшы, Пятрусь, быў жанаты ў Варшаве. Гэты наведваў бацькоў адно ў «вялікае свята». Аднавяскоўцы не любілі Сцяпана Іванавіча, паколькі лічылі яго багацеем. Сапраўды, цесць выходзіў з багатай сям'і. Раней меў некалькі дзясяткаў гектараў ворнага поля і сенажаці, лес на Краснасельшчыне, пару коней, некалькі вепрукоў і птушыны статак. З таго адпісаў у пасагу зяцю Лёніку ў Мокрым частку маёмасці, затым другому зяцю Мікалаю ў Дубяжыне. Гануля Сцяпанаўна, цешча значыцца, выходзіла з вядомага роду відаўскіх Бабулевічаў. Ейныя бацькі бачылі адпаведнага партнёра на зяця ў сыне Івана Вялікага (так называлі дзядулю маёй будучай жонкі) у Дубяжыне. Так вось і пажаніліся Гануля Бабулевіч са Сцяпанам Яканчуком з Дубяжына.

Маё жыццё кіношніка пасля цырыоніі шлюбу ні ў чым не перамянілася апрача таго, што, калі заязджаў у Дубяжын з кінаперасоўкай, дык на начлег заходзіў да Ані, сваёй нарачонай. На выхадныя, у святочныя дні таксама ехаў да сваёй любай. Ідучы праз вёску, дубяжынская кавалерка запрашала мяне на выпіўку, але я адмаўляўся. І гэта вельмі падабалася бацькам Ані. Заўжды ў хаце чакаў мяне багаты пачастунак. Прайшла восень і зіма 1967 года. З маланкавай хуткасцю праляцела вясна. Набліжаўся дзень «цывільнага» шлюбу. У Дубяжыне, мабыць, ужо забыліся пра маю мінулагоднюю гасціну ў Дубяжыне, бо я не чуў ані слова пасля аб гэтым, калі заязджаў з кінаперасоўкай.

Прыйшоў доўгачаканы дзень 30 красавіка 1968 года. Памятаю, што мяне з Аняй са станцыі Кляшчэлі ў гміну на матацыкле «Урал» з каляскай адвозіў камендант мясцовага пастарунка міліцыі Грыша Сцепанюк. Цырымонію акту шлюбу здзейсніў кіраўнік ЗАГС Барыс Сламінскі. На пасляабедзенны цягнік у Кляшчэлі падвозіў зноў камендант міліцыі. Мае вясельныя госці пад камандай братухі Віктара з музыкантам Грышай Рэпкам (дваюрадным братам) з Чаромхі ў той час падаваліся на цягніку. Мы з Аняй да іх далучыліся ў Кляшчэлях. Здаецца, што была субота. Харысткі з Дубяжына падаваліся на рэпэтыцыю ў Бельск-Падляшскі. Здзіўляліся вельмі, калі ўбачылі святочна прыбраныя фуры Сцяпана Яканчука на прыпынку ў Падбеллі. Нават у думцы ім не мільганула сяброўчына вяселле. Усё выявілася, калі мнагалікая група са спевамі і музыкай выкацілася з цягніка на перон. Дубяжынскія харысткі адракліся ад рэпэтыцыі і ўслед за расспяванай грамадой падаліся назад у сяло. Багата застаўленыя сталы чакалі гасцей. Невялічкая хатка ўнучкі Івана Вялікага бурліла музыкай і песняй. А пасля была супольная забава ў суседа Грышы. Удзельнічалі ў гулянцы вясковыя дзяўчаты. Гэтая падзея доўга каментавалася аднавяскоўцамі ў Дубяжыне. З таго часу, калі заязджалі мы ў сяло з кінаперасоўкай, дык не заходзіў я ўжо на начлег да Ані як нарачонай, а як у сваю хату да жонкі. У Дубяжыне кіношнік Валодзя знайшоў нарэшце прыстань і законны свой кавалерскі стан.

(працяг будзе)

❖**Уладзімір СІДАРУК**

# 28.10 — 03.11

**(22.03. — 20.04.)** 27-28.10. можаш зрабіць удалы інтарэс. Пашырыш кола знаёмых. Можа, збярэшся купіць жыллё. Афармленне нялёгкіх адміністрацыйных спраў. Тыя, хто не верыў у свае сілы і ўмеласці, пакажуць сваю сілу і ўбачаць першыя поспехі. У сувязі з новымі выклікамі большыя грошы. Не зрывайся хутка з фатэля ці ложка.
**(21.04. — 21.05.)** 27-28.10. навучышся важнага аб сабе і іншых. 28-31.10. можаш стаць аб'ектам жартаў і кепікаў. 28-31.10. знойдзеш у сабе адвагу і сілу, каб парваць з таксічнай сувяззю і пачаць усё нанова. Шанцы на гарачы флірт. Зрабі сабе малы падарунак, папраў настрой. Трэніруйся, але без лішняй напругі.
**(22.05. — 22.06.)** Завершыш самае важнае. 28-30.10. запланаў афармленне важных службовых, адміністрацыйных спраў. Мусіш давесці да канца праекты, задумы, будуць ад цябе патрабаваць канкрэтных вынікаў. Больш дбай аб сябе, кінь курэнне, схадзі да гінеколага, дантыста, сямейнага ўрача. Можаш слаба ўдарыць.
**(22.06. — 23.07.)** Шанц на кампанейскі або прафесійны поспех. Маеш падтрымку зорак у розных планах. Да дапамогі іншым заахвоціць цябе Няптун. 27-28.10. прыйдзецца яшчэ абгаварыць нявырашаныя канфлікты і важныя справы. Дастатковае шчасце ў фінансах. Можаш падумаць аб крэдыце, большай хаце ці аўто. Не насі цяжкага.
**(24.07. — 23.08.)** 27-28.10. шанц на ўдалы і вельмі прыбытковы інтарэс. 28-31.10. можаце апынуцца ў вельмі глыбокім крызісе ў пары. Самотныя Львы будуць прыцягваць да сябе асобы, ад якіх лепш трымацца як найдалей — праблемы і разбітае сэрца гэта толькі справа часу! 28-31.10. час спрыяе зменам на працы. Можаш спакусіцца лепшай пасадай у канкурэнцыі. На працы перастаў стол ці перанясіся ў іншы кабінет — будзе новая энергія і новыя задумы. Не парань сябе інструментамі.
**(24.08. — 23.09.)** Змены, якія добра паўплываюць на тваё жыццё. 28-31.10. гарачыя ночы. Спадзявайся наезду гасцей, зрабі файную імпрэзу для дзяцей. Спытайся пра новую працу ў знаёмых або заглянь у сеціва. Памогуць табе калегі, за што можаш ім шчодра аддзячыць (будзе чым). Таргуйся, калі штосьці прадаеш ці купляеш. Дзень пачынай гімнастыкай.
**(24.09. — 23.10.)** Добра пойдзеш уперад, 28-31.10. будуць зайздросціць табе поспехаў. Але можа прыйдзецца памяняць прабітую шыну ў матацыкле, ровары ці аўто. Круціцца ў дамска-мужчынскіх справах. Пахвалы на працы. Твае задумы не трапяць у сметніцу. Але не бяжы туды, дзе пачуеш «уцэнка, прамоцыя, распрадажа»! Шпацыруй на свежым паветры.
**(24.10. — 22.11.)** Творчасць, прыхільнасць. 28-30.10. будзе гучна пра тваю асобу, павышэнне. 28-31.10. можаш моцна кімсьці зачаравацца. Будзе цікава! 28-31.10. будзеш добра гуляць з сябрамі. Вялікая папулярнасць у Скарпіёнаў з трэцяй дэкады. Твой рэйтынг у фірме ці школе ўзрасце. Выкажашся на больным форуме. Усё, за што цяпер возьмешся, прынясе вельмі прыбытковыя эфекты неўзабаве!
**(23.11. — 22.12.)** Пазбягай рызыкі, не ўваходзь іншым у дарогу. Усё будзе добра. Хаця пачуццёвае жыццё — хутчэй у заняпадзе. 28-30.10. дасі камусь добрую параду. Не ўсе будуць захопленыя тваімі жартамі. Спраўна развяжаш складаныя заданні. Убачыш вынікі сваёй працы, можаш успомніць пра прэмію, афармляць розныя справы ва ўстановах. Усё, што зробіш 28-30.10. будзе расці і прыносіць працэнты; можаш зайграць на біржы, інвеставаць, рабіць капіталаўкладанні. Лепш высыпайся, пазбягай стрэсавых сітуацый.
**(23.12. — 20.01.)** Не скачы «ў бакі» — 28-31.10. можа даведацца аб усім твая пара! Раскветнее кампанейскае жыццё, паявяцца новыя, сімпатычныя твары. 28-30.10. будзь адкрыты на прапановы. Уласная дзейнасць прынясе найбольшы прыбытак народжаным у другой і трэцяй дэкадзе знака.
**(21.01. — 19.02.)** Справішся ўпэўнена з усімі перашкодамі. Цяпер лепш не купляй нічога да дому. Убачыш і будзеш збіраць эфекты сваёй цяжкай працы. 28-31.10. будзе цябе схіляць да рызыкі, таксама фінансавай. У гэты раз удасца — можаш натрапіць на нагоду, якая здараецца раз у жыцці! Не шкадуй сабе смачнай і каларыйнай ежы — падмацуешся.
**(20.02. — 21.03.)** Каля 28.10. зоркі прынясуць табе большыя грошы. Узмоцніш сваё становішча і выклічаш павагу. Не дазваляй здаміраваць сябе ў пары. Пазбягай асоб, якія заўсёды пнуцца ўперад. Не пераймайся нічым, на што не маеш уплыву. Пільнуйся ад прастуды і грыпу, бо могуць цябе пакласці ў ложак або і ў бальнічную койку!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. паўднёвае дрэва сямейства ружакветных (*Cydonia*) = 14 _ 15 _ 18 _ 19 _;
2. выспа = 29 _ 30 _ 26 _ 27 _13 _ 28 _ 31 _;
3. першая жыхарка раю = 6 _ 5 _ 17 _;
4. шкодны грызун з доўгім хвастом = 1 _ 2 _ 22 _ 12 _ 11 _;
5. поспех, у якім... дача = 36 _ 35 _ 23 _ 32 _ 33 _;
6. свякруха = 21 _ 20 _ 10 _ 7 _ 8 _;
7. гарбата = 24 _ 25 _ 9 _;
8. персідскі манарх = 37 _ 38 _ 16 _;
9. ежа = 34 _ 3 _ 4 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | | | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | | 35 | 36 | 37 | 38 |

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Клубок, сын, абардаж, Мінск, вальс, вуж, Сёмуха, качка, Сайгон, соль.

Рашэнне: **Кожны сам каваль свайго лёсу**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Цуд у Ражкоўцы, улічваючы палітычную карэктнасць, ніколі не набыў шырэйшага значэння. Хоць, калі спытаць каго з жыхароў навакольных вёсак, здарэнне з 28 верасня 1942 года, успамін цудоўнага выратавання ад смерці, дзейнічалі як суцяшэнне. Памяць узнаўляў хрэсны ход, які з царквы на месца нявыканага расстрэлу ладзілі ў гадавіну цуду. Гэтая звычка засталася па наш дзень.

— Нашы бацькі пільнавалі дзень і ноч царквы, — кажа Вольга Саевіч.

На зломе шасцідзясятых і сямідзясятых гадоў, калі ў Беларусі шалела атэізацыя, ражкоўцы ў канспірацыі адпраўлялі багаслужбы. У нядзелю і святы непрыкметна адкрывалі дзверы царкоўкі, чыталі на сцішанай ноце літургічныя кнігі, прыпявалі малітвы. Перад Калядамі і Вялікаднем служылі *ўсеначную*. Вакол будынка выстойвалі вартаўнікі. Яны выгледжвалі надыход ідэалагічных службаў, якія для чыстага спорту арганізавалі тады хапун. Іншая рэч — камуністы не ведалі, як разыграць Ражкоўку. Яны не маглі зруйнаваць месца з-за брацкай магілы. Якраз на царкоўным пляцы пахавалі савецкіх партызан з атрада Каўпака...

Захаваць месца абавязвала таксама народная памяць пра спаленую царкву ў Белай. Гэта здарылася ў будзённы дзень. Усе працавалі ў полі. Калі ўбачылі пажар, людзі кінулі работу і напрасткі пабеглі ў Белую. Перад царквой выстойвалі ўжо паліцаі. Яны пад пагрозай расстрэлу не пускалі ўсярэдзіну:

— І адна маладзіца з Ражкоўкі пайшла ў агонь. «Страляйце!» — сказала. Паліцаі згубілі чуйнасць, расстроіліся. У той момант у агонь кінуліся людзі... Яны вынеслі і іканастас, і частку ікон, — кажа бацюшка Ігар. — Усё гэта захавалі ў Ражкоўцы...

Толькі цяпер прыкмечу сляды пажару на старых іконах.

* * *

Пасля 1991 года, калі ў Беларусі пачалося рэлігійнае адраджэнне, цуд у Ражкоўцы паспрабавалі занесці ў кананічныя рамкі. Праўда, ікона, падараваная Эмілем Альбертам Хербстам (пазбаўленая ружанца), далей стаіць пры царскіх варотах.

Малебны аднак служаць ужо пры новай, распісанай у Аляксандра-Неўскай лаўры, Ражкоўскай іконе Божай Маці. Як патлумачыў святар, сродкі збіралі сярод праваслаўных Фінляндыі. У парафіі ўстанавілі новае свята ў гонар Ражкоўскай іконы.

— Мы стараліся напісаць службу, — паясняе бацюшка, — але на гэта не хапае сродкаў. А ў прыходзе, дзе няпоўная сотня людзей, да таго ў старэйшым узросце, гэта не пад сілу... Але пэўныя крокі зроблены. У гонар Іконы напісаны трапар і кандак:

**Тропарь Божией Матери Рожковской**

**Глас 4-й**

*В преславнем явлении Твоем,*
*Владычице Небесная,*
*людие веси Рожковская от лютыя*
*казни освобождаются,*
*и святую церковь во славу Твоего*
*Пречистого Образа воздвигнувши,*
*тамо молитву со умилением*
*и слезами приносят,*
*да Твоим усердным ко Христу*
*предстательством*
*непрестанно ходатайствуеши*
*о всех нас под Твой священный*
*покров прибегающих,*
*о богохранимей веси Рожковской*
*и земле Берестейской,*
*о спасении всего православного*
*Отечества нашего,*
*просящи нам избавления от бед*
*и Божией милости.*



■ Урочышча «Ямка»

# Плакалі, што ў небе было чутна! (3)



■ Эміль Альберт Хербст (першы справа), бацюшка Фама Клюка (у сярэдзіне), будаўнік царквы і настаяцель прыхода ў Дмітравічах. У гасціне ражкоўскага солтыса, 22 студзеня 1943 г.

**Кондак**
**Глас 3-й**

*Дева днесь предстоит на воздусе,*
*и явлением преславным спасает*
*весь Рожковскую.*
*Враги иноплеменные ужасаются,*
*православные свобождаются,*
*земля Берестейская посещением*
*Пречистой освящается,*
*и вся Русь торжествует,*
*сопротивных избавляешеся,*
*нас бо ради молит Богородица*
*Превечного Бога.*

* * *

— Я ўсё ж нарадзілася ў хаце, а не ў ямцы, — працягвае расказ 76-гадовая Вольга Саевіч, — *як освободілі, то матэру вэлі пуд рукі...* І як прыйшлі дамоў, я зразу нарадзілася. *І так то о во!* — завяршыла свой расказ мая гераіня.

Каб прадоўжыць размову, пытаю, як склаўся лёс бабы Вольгі.

— Як у людзей, — кажа жанчына. — Трыццаць гадоў працавала ў калгасе. Цялят даглядала. І слава Богу, хоць з палачкай, яшчэ ў царкве выстаю...



Працяг аповеду, дзе зноў праявіўся цуд, я пачула ў Белай, у той жа вёсачцы, дзе ў гады вайны загарэлася царква, з якой ражкоўскія жанчыны вынеслі іконы і іканастас.

Пра гэта распавяла мне Тацяна, уласніца агратурыстычнага пансіяната «Польскі маёнтак».

— Гэта было на змярканні, недзе ў сярэдзіне зімы. Я даіла карову і чую: сабака брэша. І нехта тузаецца, лае сабаку. А сабака заеўся, не адстае. Я падышла... Нейкае дзіва. Сабака лёг пасярод вуліцы, вурчыць. А перад ім бабулька. Яна хоча ісці, а сабака не пускае! То я паклікала дамоў. Пытаю што і як. Бабуля спачатку расплакалася. З рання схадзіла яна ў Камянюкі, аформіць нейкія асігнаты ў лясніцтве. А як ішла дамоў, заблудзіла ў лесе. Неяк краем ракі дайшла ў Белую і тут наша сука яе запыніла.

Тацяна прымусіла заначаваць у сябе Вольгу. Яна напаіла жанчыну гарачым чаем, пазваніла сыну... Калі вечарам сядзелі ля печкі, баба Оля распавяла ёй пра сябе і здарэнне з 1942 года ў Ражкоўцы....

— То я слухала і думала, што нашых людзей цуд ніколі не пакідае, — уздыхае прылюдная Тацяна, — і яны, насупраць злому, выжываюць... Вось, каб сабака не запыніў гэтай жанчыны, яна б звычайна замерзла ў дарозе... І ведаеце, — апошнія словы прагучаць як зразумелыя чагосьці незразумелага, — баба Оля ўзяла ад нас шчанюка каб пільнаваў яе ў дзень і ўночы.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

*Рэпартаж узнік дзякуючы творчай стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства за 2018 год.*

ISSN 0546-1960